Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 3 (4854) 22 студзеня 2016 г.



# Каралева фуэтэ

## Лепшай артысткай балета за мінулы год у Вялікім тэатры прызналі шматдзетную маму Ірыну Яромкіну

Фуэтэ — гэта частка танца, калі рэзкі рух адной нагі дапамагае балерыне хутка круціцца на другой, уздымаючыся на пуантах. Яна ледзь заўважна ўзлятае над тымі, хто збоку назірае за гэтым чараўніцтвам. Сапраўды захапляе, зараджае энергіяй. Прыём дэманструе майстэрства салісткі ў класічным балеце. Але часам хочацца перанесці яго на рэчаіснасць, параўноўваючы тэатральныя сюжэты з тымі, якія выпісвае яна ў адносінах да людзей. Магчыма, правярае майстэрства жыць? Асабліва гэта справядліва ў дачыненні да Ірыны Яромкінай, заслужанай артысткі Беларусі, вядучага майстра сцэны, салісткі Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі. Артысты беларускага балета назвалі яе лепшай па выніках 2015 года, ведаючы, колькі жыццёвых фуэтэ яна вымушана была рабіць: як артыстка, як жанчына, як мама. Таму што летась Ірына стала мамай трэці раз. Але тыя, хто ходзіць у тэатр «на Яромкіну», маглі бачыць яе ў спектаклях. Рэдкі выпадак у балеце, калі вядучая салістка падчас актыўнай кар'еры наогул адважваецца на мацярынства. Сваім прыкладам Ірына абвяргае існуючыя стэрэатыпы і даказвае: справіцца здольная як з прыёмамі балета, так з фігурамі жыцця.


Сцэна з балета «Шчаўкунок».

### Антрэ (выхад)

**— Бывае, калі вы ловіце сябе на думцы: у дадзены момант я танцую сябе?**

— Пра мяне, напэўна, яшчэ не напісалі балетаў… Мне здавалася, што «Анюта» — гэта мой спектакль. Магчыма, унутраны стан гераіні, якая перажыла драму, мне зразумелы. Анюту быць такой прымусіла жыццё. Яна мне бліжэй за іншых гераінь. Але гэта не я. Напэўна, я настолькі ўмею пераўвасабляцца ў тое, што трэба, што нават не ведаю, з кім з літаратурных альбо іншых герояў магу сябе параўнаць. Я не Джульета і не Кармэн. Не Белы лебедзь і не Чорны. Мне адзін грымёр сказаў: «У цябе твар — як чысты аркуш паперы, на ім можна стварыць што заўгодна». Кожны спектакль я танцую як апошні, унутрана збіраюся і раблю ўсё так, быццам на сцэну больш не выйду.

**— Ці ёсць для вас розніца, што танцаваць?**

— Любіць трэба ўсе ролі. Ёсць любімыя з-за ўнутранага зместу спектакляў. А ёсць любімыя спектаклі менавіта з-за тэхнікі. Я вельмі люблю «Лебядзінае возера». Хоць акрамя тэхнікі гэты спектакль напоўнены драматычнымі момантамі, у ім столькі пераўвасабленняў. Гэта візітоўка любога тэатра. Але ў спектаклі «Анюта» паспяваю перажыць шмат настрояў, вобразаў. Музыка, пастаноўка, касцюмы — мне ўсё падабаецца ў гэтым спектаклі. Я заўсёды чакаю, калі падыдзе мая чарга яго танцаваць.

Чытайце на стар. 12

# Майстар дэталізацыі, ці Гісторыя буйным планам

Што насіла Барбара Радзівіл і як трымалі аблогу старажытныя замкі?

**Глядзець на карціны — і адпраўляцца пешшу ва ўладанні Вітаўта, сядзець за круглым сталом побач з каралём Артурам, блукаць па сярэднявечным Брэсце, Вільні альбо Кенсінгтонскім парку, трапятаць ад ваяўнічага погляду княгіні Слуцкай, кідацца ў сонечнае зарыва разам з богам Ярылам ці апускацца пад зямлю ў пошуках страшных драконаў і выдатных прынцэс… Майстар дэталізацыі, які дазваляе свабодна падарожнічаць паміж рэальнасцямі і вяртацца ў гістарычнае мінулае, — кніжны ілюстратар, графік, дацэнт Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў Павел Татарнікаў, які заваяваў прэстыж не толькі ў Беларусі, але і ў заходніх краінах. Ён лёгка спалучае выдумку і рэальнасць, але ў любым выпадку падмацоўвае фантазію праўдзівымі фактамі, з'яўляючыся і архітэктарам, і рэстаўратарам, і археолагам. З ім гаворым пра элітарнасць мастацтва ілюстрацыі, праблемы кніжных афарміцеляў, цікаўнасць да гістарычнай рэканструкцыі і тое, як стаць вядомым.**

Чытайце на стар. 13


Работа Паўла Татарнікава «Зюзя».

## Пункцірам

✔ Выстаўку «Беларусь і беларусы», якая адкрылася ў Міністэрстве замежных спраў Беларусі, цягам года пабачаць у краінах Еўропы і Азіі. Мабільны выставачны праект дае кароткую характарыстыку культурным дасягненням, на даступнай мове расказвае пра гісторыю краіны, прадстаўляе беларускую нацыю як неад'емную частку сусветнай супольнасці. Арганізатары разлічваюць, што выстаўка будзе даступная наведвальнікам не толькі пасольстваў, але і важных міжнародных дзелавых, культурных мерапрыемстваў.

✔ Рэспубліканская мастацкая выстаўка лаўрэатаў, стыпендыятаў і дыпламантаў спецыяльнага фонду Прэзідэнта па падтрымцы таленавітай моладзі адкрываецца ў Нацыянальным гістарычным музеі. За 20 гадоў дзейнасці спецфонду звання лаўрэата, стыпендыята і дыпламанта ўдастоены 3388 чалавек, больш як 500 з іх — прадстаўнікі выяўленчага мастацтва. Гэтым разам у гледачоў ёсць унікальная магчымасць убачыць творы, якія выстаўляліся ў Германіі, Даніі, Бельгіі, Кітаі, ЗША, Японіі. Да ўвагі наведвальнікаў — работы Алесі Скорабагатай, Вольгі Мельнік-Малахавай, Ганны Конанавай, Аляксандра Даманава. У экспазіцыі таксама бярэ ўдзел малады беларускі скульптар, лаўрэат прэміі Прэзідэнта «За духоўнае адраджэнне», аўтар манумента «Брама памяці» ў Трасцянцы Канстанцін Касцючэнка.

✔ Стыпендыі Прэзідэнта Беларусі на 2016 год назначаны 82 аспірантам, сярод якіх і прадстаўнікі гуманітарных навук. Гэта таленавітыя маладыя аспіранты, якія выконваюць дысертацыйныя даследаванні па прыярытэтных напрамках навуковай дзейнасці і чые навуковыя дасягненні знойдуць прымяненне на практыцы.

✔ Беларускаму дзяржаўнаму акадэмічнаму музычнаму тэатру — 45 гадоў. Тэатр, створаны ў 1970 годзе, свой першы сезон адкрыў 17 студзеня 1971-га спектаклем «Спявае "Жаўрук"» кампазітара Юрыя Семянякі. Да 2000 года калектыў меў назву «Дзяржаўны тэатр музычнай камедыі Беларусі».

✔ Нацыянальны гісторыка-культурны музей-запаведнік «Нясвіж» прапануе турыстам знаёмства з традыцыямі святкавання Каляд стагадовай даўніны на тэматычнай выстаўцы паштовак «Спяшаюся павіншаваць Вас...». У экспазіцыі прадстаўлены калядныя і навагоднія паштоўкі з прыватнай калекцыі В. М. Кустава (Санкт-Пецярбург). У музеі можна азнаёміцца і з іншымі матэрыяламі, якія дапамогуць адчуць дух пачатку XX стагоддзя, паказаць, як паўплывалі калядныя традыцыі на мастацтва, літаратуру.

✔Жыхары і госці Віцебска атрымалі магчымасць убачыць «Віцебскую батлейку». Гэта праект-рэканструкцыя традыцыйнага лялечнага тэатра, які быў распаўсюджаны ў рэгіёне ў XVII — XIX стагоддзях, аднойленага Наваполацкім цэнтрам рамёстваў і традыцыйнай культуры. Акрамя таго, у выставачнай зале метадычнага цэнтра адбыліся батлеечныя паказы народнага тэатра лялек «Капялюш» і фальклорнага калектыву «Субацея» з Наваполацка.

✔ Кніжная выстаўка «Фундаментальныя працы жанчын — дактароў навук», прымеркаваная да Дня беларускай навукі, адкрылася ў Белдзяржуніверсітэце. У экспазіцыі прадстаўлена больш як сто манаграфій, кніг, падручнікаў, вучэбна-метадычных дапаможнікаў, аўтары якіх — супрацоўніцы БДУ.

# Культурная сталіца. Паедзем?

**У розныя часы гэтага ганаровага тытула былі ўдастоены Полацк, Гомель, Нясвіж, Магілёў, Гродна і Брэст. Сёлета культурнай сталіцай Беларусі афіцыйна стаў горад Маладзечна.**

Два гарады Мінскай вобласці, Маладзечна і Слуцк, былі галоўнымі прэтэндэнтамі на статус культурнай сталіцы. І, нягледзячы на тое, што Слуцку хутка спаўняецца 900 гадоў, выбар быў спынены на Маладзечне. Галоўны спецыяліст упраўлення ўстаноў культуры і народнай творчасці Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь Людміла Лебедзь пракаментавала:

— Падчас выбару калегія Міністэрства культуры ў першую чаргу арыентавалася на культурную гатоўнасць горада, развіццё яго інфраструктуры, разглядала планы мерапрыемстваў… А ў Маладзечне штогод рэалізуецца і праводзіцца шэраг буйных міжнародных, рэспубліканскіх, рэгіянальных культурных праектаў. Гэты факт і паўплываў на канчатковае рашэнне.




Фота Кастуся Дробава

Акцыя «Культурная сталіца Беларусі» праводзіцца з 2010 года. З яе асноўнымі задачамі — актывізацыя творчай ініцыятывы і мастацкага жыцця, развіццё і папулярызацыя традыцый нацыянальнай культуры — Маладзечна, несумненна, справіцца. З 1993 года горад з'яўляецца месцам правядзення Нацыянальнага фестывалю беларускай песні і паэзіі. Тут ладзіцца Рэгіянальны фестываль маладых выканаўцаў эстраднай песні «Адна зямля», міжнародныя і рэспубліканскія турніры па спартыўных танцах «Кубак Маладзечна», адкрыты конкурс юных выканаўцаў эстраднай песні «Маладзічок», фестываль моладзевых творчых ініцыятыў «Час жыць!» і многія іншыя.

Сёння ў фарміраванні культурнага асяродка Маладзечна бяруць удзел каля 16 устаноў культуры і мастацтва. У горадзе дзейнічаюць Палац культуры і летні амфітэатр. На гэтых пляцоўках з году ў год праводзіцца каля пяцісот мерапрыемстваў культурнага напрамку. Актыўнай канцэртнай дзейнасцю займаецца Дзяржаўны музычны каледж імя Міхала Клеафаса Агінскага. У гледачоў з розных куткоў краіны карыстаюцца папулярнасцю абласны драматычны тэатр і тэатр лялек.

Факт таго, што Маладзечна стаў культурнай сталіцай 2016 года, дае гораду падставу выйсці на новы ўзровень, яшчэ больш раскрыць свой патэнцыял і, магчыма, прыцягнуць увагу турыстаў. Калі ўспомніць леташні вопыт Брэста, можна быць упэўненым, што Маладзечна падорыць жыхарам і гасцям мноства яркіх падзей, якія пройдуць пад знакам нацыянальных традыцый.

**Вікторыя АСКЕРА**

## У літаратурным асяродку

# Акордамі паэзіі

**Бард і даследчык нацыянальнай культурнай спадчыны, член Саюза пісьменнікаў Беларусі Аляксандр Вашчанка нядаўна прымаў віншаванні з 65-годдзем. Яго аўтарская творчая вечарына прайшла ў сталічнай дзіцячай бібліятэцы № 15. Творца наладзіў уласную фотавыстаўку і прадставіў свае літаратурныя набыткі, у тым ліку кнігу Паўла Шпілеўскага «Беларусь у абрадах і казках» ва ўласным перакладзе на родную мову.**

А яшчэ Аляксандр Пятровіч атрымаў з рук старшыні СПБ Міхася Пазнякова найвышэйшую ўзнагароду СПБ — медаль «За вялікі ўклад у літаратуру». Пра гэта рэдакцыі «ЛіМа» паведаміла галоўны спецыяліст Мінскага гарадскога аддзялення СПБ Іна Фралова.

Не менш цікавымі сталіся і іншыя нядаўнія падзеі. Так, чарговую сустрэчу ў сталічнай публічнай бібліятэцы № 5 правялі ўдзельніцы клуба творчых жанчын «Спадарыня» — члены СПБ і Беларускага саюза жанчын. Гэтым разам сваю творчасць прадставілі паэтэсы Алена Міхаленка і Ала Чорная. Старшыня МГА СПБ Міхась Пазнякоў уручыў Алене Міхаленка расійскую ўзнагароду — памятны медаль «Поэт и воин Игорь Григорьев (1923 — 1996)». Разынкай імпрэзы сталіся духоўныя песні і калядкі ў выкананні дзіцячай пісьменніцы, рэгента Алены Пімеnавай і яе дачок, распавяла кіраўнік клуба «Спадарыня» Тамара Бунта.

На імпрэзу «Расчыні акно душы сваёй насустрач сонцу» ў Школу аптымізму «Не выжываю, а жыву!» для бярэзінцаў з фізічнымі абмежаваннямі і людзей сталага ўзросту, што працуе пры Бярэзінскай цэнтральнай раённай бібліятэцы, завіталі члены Саюза пісьменнікаў Беларусі Валянціна Паліканіна і Міхась Пазнякоў. Дарэчы, лёс Міхася Паўлавіча цесна звязаны з Бярэзіншчынай: ён настаўнічаў тут у маладыя гады. Паводле слоў загадчыка аддзела маркетынгу Бярэзінскай ЦРБ Тамары Круталевіч, у дар раённай і дзіцячай бібліятэкам пісьменнікі перадалі кнігі і дыскі песень ды рамансаў Вольгі Патрый на вершы Валянціны Паліканінай. Госці з прыязнасцю прынялі ад бярэзінцаў сімвалічныя «Ордэны чытацкай сімпатыі» і падарункі. Мажорны настрой падарыў удзельнікам Школы аптымізму ансамбль народнай песні і музыкі «Мінскі гармонік» пад кіраўніцтвам Івана Раманчука.

Сёмы дзень нараджэння літаратурна-музычнага аб'яднання «Акорд», якое ўзначальвае член СПБ, паэтэса Тамара Залеская, адсвяткавалі ў сталічнай публічнай бібліятэцы № 15 імя Цёткі. Літаб'яднанне, першапачаткова створанае для самадзейных паэтаў, значна пашырылася. Яго сённяшнія ўдзельнікі — аўтары ўласных і калектыўных зборнікаў, шматлікіх публікацый у літаратурна-мастацкай перыёдыцы. Падчас святочнай імпрэзы сваю творчасць прадставілі члены СПБ Юрась Нераток, Лізавета Палеес, Вольга Шпакевіч, Уладзімір Тулінаў, член Саюза пісьменнікаў Расіі бард Людміла Воранава ды іншыя творцы.

**Дзіна ДОЛЬСКАЯ**

# Пачуць гледачоў

**«Тэатральная гасцёўня» хутка адкрыецца ў Гродзенскім абласным тэатры лялек. Прэм'ера праекта адбудзецца ўжо заўтра, 23 снежня, па незвычайным і зусім некласічным сцэнарыі. Акрамя спектакля-дуэта і перфомансу, можна будзе пачуць вершы Данііла Хармса, пабачыць урывак з пастаноўкі Яўгенія Грышкаўца і некалькі музычных нумароў. Удзел возьмуць акцёры з двух тэатраў Гродна — як лялечнага, так і драматычнага. Словам, абсалютна новы фармат!**

У чым сэнс праекта? «Тэатральная гасцёўня» накіравана не толькі на тое, каб здзівіць гледачоў, але і наладзіць з імі прамы дыялог. Пасля ўсіх пастановак у межах праекта плануецца іх вольнае абмеркаванне ў нефармальных абставінах. Кожны зможа задаць пытанне ці прапанаваць свой водгук.

Па словах літаратурнага рэдактара Гродзенскага абласнога тэатра лялек Ганны Фартальновай, «Тэатральная гасцёўня» будзе адчыняць дзверы прыкладна раз у два-тры месяцы, калі назбіраецца столькі ідэй, што іх можна будзе смела прадэманстраваць.

Дарэчы, ідэя праекта належыць кіраўніцтву Гродзенскага абласнога аддзялення Беларускага саюза тэатральных дзеячаў. «У Расіі, напрыклад, гэтая з'ява ўжо не патрабуе ўдакладненняў і вельмі шырока распаўсюджана. У фармаце "Тэатральнай гасцёўні" ў Гродне плануецца сумясціць сучасныя спектаклі, малааб'ёмныя па часе, напрыклад, скетчы ці інтэрмедыі», — тлумачыць Ганна Фартальнова.

Мэта «Тэатральнай гасцінай» яшчэ і ў тым, каб паказаць тэатр у самых розных яго формах — арганізоўваць сустрэчы з вядомымі артыстамі ці драматургамі, выступленні, якія ўвогуле можна назваць імправізацыяй. Словам, не абмяжоўваць паняцце «тэатр» толькі схемай «сцэна — глядацкі зал». Гэты эксперымент павінен як мінімум прыцягнуць новую публіку, тую, што не баіцца змен.

**Марыя ВОЙЦІК**

# І выдатныя нарысы

**Добразычлівы і сціплы, адказны і ўважлівы — такім сябры і калегі згадваюць Янку Сіпакова — чалавека, які большую частку жыцця прысвяціў развіццю беларускай літаратуры і быў не толькі таленавітым паэтам, празаікам, але і прафесійным рэдактарам.**



*Янка Сіпакоў, 2003 год.*

*Фота Кастуся Дробава*

Як падкрэслівае пісьменнік Генрых Далідовіч, Янка Сіпакоў таксама пісаў цудоўныя нарысы. Ён стаў аўтарам выдатнай кнігі «Зялёны лісток на планеце Зямля», якая і сёння павінна быць цудоўным чытвом для маленькіх беларусаў.

«У жыцці такі ціхі, сціплы, а тут дзёрзкі — такое вырабіў з нашай савецкай рэчаіснасцю! Антысавецчыну напісаў!» — усклікнуў галоўны рэдактар «Полымя» Кастусь Кірэенка, калі прачытаў першую аповесць Янкі Сіпакова «Жыві як хочацца» (апублікаваная пад назвай «Ці так жывеш?»). Гэты выпадак таксама ўзгадаў Генрых Далідовіч. Янка Сіпакоў адным з першых звярнуўся да тэмы горада, да праблем гарадской інтэлігенцыі. «Пісьменнік працаваў у рэчышчы белетрызаванай прозы, яго яркія, эмацыянальныя, настраёвыя, выдатныя па стылістыцы апавяданні мелі мноства чытачоў», — зазначае літаратуразнаўца Уладзімір Навумовіч.

Па словах пісьменніка Зіновія Прыгодзіча, Янка Сіпакоў не любіў паўтарацца, звяртаўся да самых розных тэм, жанраў і паэтычных форм.

Знаёмства многіх сучасных творцаў з Янкам Сіпаковым вымяраецца дзесяцігоддзямі, таму на юбілейным вечары Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры гучалі лаканічныя згадкі толькі пра самыя яркія сустрэчы і размовы. Затое ў хуткім часе пабачыць свет кніга ўспамінаў пра пісьменніка, якая рыхтуецца ў выдавецтве «Чатыры чвэрці». А каб найлепшым чынам згадаць Янку Сіпакова ў юбілейны васьмідзясяты год, варта звярнуцца і да мастацкіх твораў…

**Юлія ШПАКОВА**

# Ніякай цішыні ў бібліятэцы!

**Сёння ў Мінску адбудзецца першая «Ноч бібліятэк». З 19.00 да 23.00 наведвальнікі дзвюх кніжніц сталіцы — навуковай бібліятэкі БНТУ (Я. Коласа, 16) і бібліятэкі імя А. С. Пушкіна (вул. Гікалы, 4) — змогуць паўдзельнічаць у гэтым унікальным праекце: урыўкі са сваіх любімых кніг на беларускай мове і з твораў замежнай літаратуры ў перакладзе на беларускую прачытаюць Юрый Зісер, Ганна Бонд, Аляксандр Куль, Саша Раманава і іншыя госці.**

— Ідэя правесці «Ноч бібліятэк» нарадзілася па аналогіі з вядомым і раскручаным трэндам — «Ночы музеяў», — распавёў начальнік аддзела карпаратыўных камунікацый *velcom* Вячаслаў Смірноў. — Наша «Ноч бібліятэк» — частка праекта Студыі мабільнага кіно *velcom Smartfilm*. Тэма фестывалю ў гэтым годзе — буктрэйлеры, ролікі, якія прэзентуюць кнігу. Своеасаблівы майстар-клас аб'яднае беларускую мову, літаратуру і кіно. Мы спадзяёмся, што з часам гэта падзея ператворыцца ў добрую традыцыю. Асноўная мэта новай ініцыятывы — папулярызацыя беларускай літаратуры. Але ёсць і другая задача — у межах конкурсу паказаць удзельнікам і гасцям, што па беларускіх творах можна зрабіць добрае кіно, нават мабільнае.

Уваход на фестываль вольны. А яшчэ дзве «начныя» бібліятэкі могуць стаць найбуйнейшымі ў горадзе кропкамі буккросінгу: арганізатары рэкамендуюць захапіць з сабой любую кнігу з дому, каб абмяняцца з іншымі гасцямі.




Падчас «Ночы бібліятэк» чакаецца майстар-клас па беларускім традыцыйным мастацтве, настольныя гульні, шмат цікавых гасцей. А ў навуковай бібліятэцы БНТУ можна пазмагацца ў літаратурных гульнях ад клуба «451», асвоіць асновы каліграфіі, навучыцца генерыраваць ідэі для рэкламных слаганаў, пісаць крэатыўныя тэксты.

У гэты вечар ёсць шанц самому навучыцца здымаць кіно на смартфон і пагутарыць з беларускімі рэжысёрамі і сцэнарыстамі. А ў *chill-out* кіназоне Мінскай абласной бібліятэкі імя А. С. Пушкіна пакажуць лепшыя конкурсныя фільмы папярэдніх фестываляў *velcom Smartfilm*.

Арганізатары нагадваюць, што захоўваць цішыню ў чытальных залах гэтай ноччу катэгарычна забараняецца. Чытаць будуць толькі ўслых і толькі кнігі, вартыя экранізацыі.

**Дар'я ЛАТЫШАВА**

## Мінскае гарадское аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі запрашае:

**22 студзеня** — *у літаратурны клуб «Шчырасць» пры публічнай бібліятэцы № 22 (вул. Я. Чачота, 23) на творчую сустрэчу з пісьменнікам і вучоным Валянцінам Талкачовым «XXI стагоддзю — здаровае пакаленне!» Пачатак у 16.30.*

**22 студзеня** — *на літаратурна-музычны вечар, прысвечаны 80-годдзю з дня нараджэння паэта Мікалая Рубцова. Імпрэза пройдзе ў Доме Масквы (вул. Камуністычная, 86). Пачатак а 15-й гадзіне.*

**25 студзеня** — *на літаратурнае свята «Іван Шамякін — летапісец эпохі», прысвечанае 95-годдзю з дня нараджэння народнага пісьменніка. Мерапрыемства ладзіцца Цэнтральнай мінскай гарадской бібліятэкай імя Я. Купалы (вул. В. Харужай, 16). Пачатак у 14.30.*

**26 студзеня** — *на паэтычнае свята «Мелодыя живога слова», якое пройдзе ў Мінскім гарадскім адукацыйна-культурным цэнтры «Лідар» (г. п. Ждановічы). Пачатак а 15-й гадзіне.*

**27 студзеня** — *на творчы вечар пісьменніка Міхася Пазнякова, які пройдзе ў Цэнтральнай мінскай гарадской бібліятэцы імя Я. Купалы (вул. В. Харужай, 16) у межах адкрыцця Мінскага гарадскога тэатра паэзіі «Ад сэрца да сэрца». Пачатак у 17.30.*

**27 студзеня** — *на вечар паэзіі, музыкі і песні, які адбудзецца ў вялікай зале Дома літаратара (вул. Фрунзэ, 5). Пачатак а 19-й гадзіне.*

**29 студзеня** — *у літаратурны клуб «Верасок» пры дзіцячай бібліятэцы № 16 (вул. Адзінцова, 32) на творчую сустрэчу з паэтэсамі Інай Фраловай і Аленай Прахінай. Пачатак у 11.30.*

**30 студзеня** — *на Баль паэзіі ў Палацы Радзівілаў (г. Нясвіж, Нацыянальны гісторыка-культурны музей-запаведнік) з удзелам лаўрэатаў міжнародных і рэспубліканскіх паэтычных конкурсаў. Пачатак а 15-й гадзіне.*

## Дайджэст

• Марыё Варгас Льоса атрымаў прэмію Дон Кіхота ў журналістыцы за артыкул, дзе распавядаецца гісторыя невялікага горада ў Перу: тут адбылося поўнае зліццё культур іспанцаў-заваёўнікаў і карэнных жыхароў. Журы назвала гэтую работу вялікім унёскам у сучасную журналістыку і адзначыла, што СМІ сёння робіць акцэнт на так званых «смажаных навінах» і не закранае сур'ёзных праблем грамадства. Льоса таксама выказаўся на той конт, што сучасная журналістыка перастала быць сур'ёзнай, апусцілася ў плоскасць банальнасці і служыць забаўкай для не самай патрабавальнай публікі.

• З 2006 года ў Румыніі функцыянаваў закон, паводле якога дазвалялася датэрмінова вызваляць з турмаў зняволеных, якія не толькі напісалі, але і апублікавалі свае творы. Аднак бурная пісьменніцкая дзейнасць зняволеных прымусіла ўлады адмовіцца ад даўняй задумкі. Прымаючы закон, судоўцы і праваахоўцы Румыніі разлічвалі на тое, што літаратурная дзейнасць станоўча паўплывае на перавыхаванне злачынцаў. Напачатку «паддоследныя» паставіліся да новага закона скептычна. Толькі адзін у 2007 годзе напісаў кнігу. Аднак пасля таго колькасць літаратараў за кратамі пачала расці вельмі хутка. У 2010 годзе Румынія мела ўжо 90 твораў аўтараў-астрожцаў, у 2014-м — 340. Некаторыя працавалі так плённа, што за год паспявалі напісаць некалькі раманаў, чым вельмі моцна скарачалі турэмны тэрмін. І вось — незвычайны закон адмянілі спецыяльным указам.

• Лаўрэатам найстарэйшай літаратурнай прэміі Іспаніі — прэміі Надаля — стаў былы паліцэйскі Віктор дэль Арболь. Перамогу яму прынёс раман «Пярэдадзень амаль усяго» — псіхалагічная драма пра людзей, якія спрабуюць збегчы ад мінулага. Твор уразіў не толькі шырокага чытача, але і экспертаў у галіне літаратуры. Віктор сцвярджае, што менавіта дваццацігадовы досвед паліцэйскага дапамагае яму знаходзіць гісторыі і натхненне для працы. Да таго аўтар ужо стаў лаўрэатам прэміі *Tiflos*, прэміі імя Фернанда Лара і Гран-пры ў якасці лепшага паліцэйскага рамана 2015 года.

• Год літаратуры ў Расіі быў багаты на адкрыццё новых помнікаў пісьменнікам. Гэтая справа займее працяг і ў 2016 годзе. Так, у Маскве з'явіцца ажно два помнікі Міхаілу Булгакаву. Першы пакажа саракагадовага пісьменніка, які з цыгарэтай адпачывае на паркавай лаўцы, а «турыстычная літаратурная сцяжына», якая пачынаецца на Патрыяршых і вядзе да дома 10 на Садовай, будзе ўпрыгожаная паасобнымі скульптурамі герояў твораў Міхаіла Булгакава. Таксама ў Маскве з'явіцца бронзавая скульптура Мікалая Карамзіна. У сярэдзіне года манумент Сяргею Даўлатаву будзе ўсталяваны ў Санкт-Пецярбургу. Кемераўцы тым часам збіраюць сродкі на ўсталяванне помніка Дастаеўскаму — хоць да Кемерава славуты аўтар не мае ніякага дачынення. Сёлета таксама будуць абвешчаны конкурсы на праекты стварэння скульптурных кампазіцый альбо манументаў Уільяму Шэкспіру і Аляксандру Салжаніцыну, якія павінны з'явіцца ў Маскве.

• Дальнабойшчыка-бібліяфіла аштрафавалі ў Германіі. Так, дарожная паліцыя з дапамогай фотаздымка з камеры, усталяванай на аўтатрасе, заўважыла кіроўцу з Нідэрландаў, які захоплена чытаў кнігу за стырном. Мужчына вымушаны быў расплаціцца не толькі за перавышэнне хуткасці, але і за згубную любоў да літаратуры. Праўда, у паліцэйскай версіі фармулёўка злачынства гучыць інакш: «за наўмыснае абмежаванне агляду дарожнага палатна падчас руху». Бібліяфіл заплаціў штраф у 25 еўра і атрымаў папярэджанне «больш не чытаць за стырном».

• Саюз пісьменнікаў Беларусі прапанаваў уключыць творы Нобелеўскага лаўрэата Святланы Алексіевіч у школьны курс навучання. Цяпер чакаецца адказ метадыстаў. Сумесна з Асацыяцыяй педагогаў яны месяць вызначаць, у якіх класах і ў якіх аб'ёмах будзе вывучацца творчасць аўтара. Па папярэдняй інфармацыі, у пералік рэкамендаваных да вывучэння кніг увайшлі «Чарнобыльская малітва» і «Цынкавыя хлопчыкі».

Саюз пісьменнікаў Беларусі і Магілёўскае абласное аддзяленне СПБ глыбока смуткуюць з прычыны смерці празаіка, паэта, члена Саюза пісьменнікаў Беларусі Віталя Дзмітрыевіча САВІЦКАГА і выказваюць шчырыя спачуванні яго родным і блізкім.

# Міхась БАШЛАКОЎ



Міхась Башлакоў — паэт, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь у галіне літаратуры. Ён аўтар араторыі «Шлях», дзе навідавоку майстэрства паэта-наватара: у традыцыйным разуменні араторыя — гэта музычны твор для хору, салістаў і аркестра. **ФРАГМЕНТЫ «ШЛЯХУ»** — увазе чытачоў «ЛіМа».

***

*Мой шлях — ад роднага парога…*
*Жыцця без шляху не было б:*
*Шлях пачынаецца ад Бога,*
*І пад анёлавым крылом*

*Наш шлях зямны бяжыць, віецца*
*Ад нараджэння… да труны…*
*Як нітка, шлях жыцця прадзецца*
*На кроснах праўды і маны.*

*Які з шляхоў ты выбіраеш:*
*Шлях праведны ці згубны шлях?*
*У нетрах, нібы воўк, блукаеш*
*Ці крочыш сцежкаю ў палях?*

*Сумлення шлях… Як крыж, нялёгкі…*
*Не кожны здольны крочыць ім.*
*І ўсё цяжэюць твае крокі —*
*Выбоін шмат на шляху тым.*

*І ні супынку, ні спачыну —*
*Святым паломнікам ідзеш*
*Шляхамі горкімі Айчыны*
*І пра Радзіму ладзіш верш.*

*Радзіма, любая Радзіма,*
*Мне без цябе ніяк не жыць!*
*Брыду стамлёным пілігрымам —*
*І шлях наперад мой бяжыць.*

*Дай, Божа, сілы і натхнення*
*Для новых песень, новых кніг.*
*Пашлі Радзімы прыцяжэнне —*
*Каб я душу яе спасціг…*

*Як доля — наша пуцявіна —*
*Яе абсяг не азірнуць.*
*Няхай мой шлях і шлях Айчыны*
*Ракой адзінаю цякуць…*

***

*Без сумлення няма паэта…*
*Калі Бог табе талент даў,*
*Трэба помніць заўжды пра гэта,*
*Бо паэзія не для забаў…*

*І метафары ўсе, і рыфмы*
*Не крануць сваёй навізной,*
*Калі хібы душы, як рыфы,*
*Недзе бачацца за страфой…*

*У паэзіі слоў няшчырых*
*Не бывае… Не можа быць!..*
*Кожны гук у нябеснай ліры,*
*Як агалены нерв, крычыць…*

*І хай лірык ты летуценны —*
*Ты адказны за кожны крок…*
*Будзь, радок мой, заўжды сумленны,*
*Будзь праўдзівы, прашу, радок.*

***

*Калі душа твая астыла,*
*Калі маўчыць твая душа,*
*Як ні напружвай свае жылы,*
*Твой верш не варты ні граша...*

*Калі ні музыкі, ні моцы,*
*Калі радок твой не крычыць,*
*Калі няма у ім эмоцый, —*
*Тады не трэба верш тварыць...*

*Паэзіяй твой верш не стане,*
*Ён проста твой чарговы верш...*
*А вось калі радок твой раніць*
*І сам крывавіцца найперш, —*

*Тады твой верш — душы аснова...*
*Як плынь імклівая ракі —*
*Цячэ, бруіцца тваё слова*
*І праз гады, і праз вякі...*

***

*Як пахне душыцай і мокрай травою,*
*Як пахне у лесе сырым.*
*Зблудзілася рэха далёкай парою*
*На золку ў сунічным бары…*

*Гукаю — шукаю світальнае рэха,*
*Знайсці аніяк не магу…*
*Няўжо я праехаў, няўжо я праехаў,*
*Праехаў сваю Церуху?*

*Цягнік праляцеў мой, цягнік не спыніўся*
*На станцыі роднай маёй.*



Фота Кастуся Дробава.

*Вось там пад бярозамі ў школе вучыўся.*
*Даўно ўжо няма школы той…*

*Няма ўжо на свеце і мілых суседзяў —*
*Ляжаць на пагосце яны…*
*І толькі самотна усхліпвае вецер,*
*Расказвае вечныя сны…*

*А я ўсё гукаю світальнае рэха,*
*Пад вецццем зялёным стаю.*
*Не дай жа мне, Божа, аднойчы праехаць,*
*Праехаць Айчыну сваю…*

***

*На станцыі маёй*
*Зязюля ўсё кувае*
*Над кветнаю вясной,*
*Над сінім небакраем.*

*Я тут калісьці жыў:*
*Вось гэта хата, сосны.*
*Сярод жытнёвых ніў*
*Блукаў па сцежках росных.*

*Насіў ваду дамоў*
*Са студні гэтай самай.*
*Пачуецца мне зноў*
*Журботны голас мамы.*

*Касы вясёлы звон*
*Руплівай раніцою.*
*І рэха летніх дзён*
*Над сонечнай вадою.*

*Сярко. Дарога. Воз.*
*Вязём мы з маці сена.*
*Шум ліпеньскіх бяроз.*
*Аблокі. Летуценнасць.*

*Мінуліся даўно*
*Гады майго юнацтва*
*Ды толькі ўсё адно*
*Мне будзе ўспамінацца*
*Час мілы, залаты…*
*І гэты, дзе кувае*
*Зязюля мне гады*
*Над родным небакраем…*

***

*О Радзіма мая,*
*Што ж ты гэтак змянілася?*
*А ні роднае мовы,*
*Ні люду вакол…*
*Што з высокай душою*
*Тваёю зрабілася?*
*Перасохла рака,*
*Што цякла з тых вякоў?*

*Ці замшэла душа?*
*Мары-кветкі пажухлі?*
*І чаму нас, дзяцей тваіх,*
*Не хвалюе нішто?*
*Мы згубілі сябе*
*Анямелі, аглухлі —*
*І ляцім у нябыт,*
*Як сарваны лісток…*

*Як нам быць?*
*Што рабіць?*
*Да сябе як вярнуцца,*
*Да гаючых крыніц,*
*Да сваіх каранёў?..*
*Да каго нам, бяспомным,*
*Цяпер прыхінуцца?*
*Як даплыці, Радзіма,*
*Да тваіх берагоў?..*

***

*І час настаў, калі нішто не грэе:*
*Ні кнігі, ні ўспаміны, ні жытло…*
*І ў зябкіх пальцах ручка ледзянее,*
*Бо за даўгі адключана святло…*

*Пакінуты раднёю і сябрамі,*
*Забыты Богам стомлены паэт,*
*У вёсачцы за сінімі барамі*
*Дапісвае апошні свой санет.*

*Усё, што меў, даўным-даўно растраціў,*
*Бяздумна растранжырыў, разгубіў…*
*І, як той яблык у здзічэлым садзе,*
*З гадамі толькі горыч накапіў…*

*Абкладзены маўчаннем, як аблавай,*
*З пагоняй неадчэпных ганчакоў…*
*Глядзіць з дакорам… Трэба неправа…*
*Але гукнуць ні сіл ужо, ні слоў…*

***

*Вы кажаце: паэзіі няма…*
*Вы кажаце: у нас няма паэтаў…*
*Ну, гэта вы, панове, задарма:*
*Паэты ёсць…*
*Як ёсць зіма і лета,*
*Як гукі клавесіна ці кларнета.*
*На густ любы.*
*А вы сваё: няма…*
*Як можаце сцвярджаць такое вы!*
*Ці сэрца ў вас, нібы лісток, трымцела*
*І плакала, як плачуць жураўлі*
*Над полем сіратліва апусцелым?*
*Ці ў вас душа самотаю шчымела?*
*Як можаце сцвярджаць такое вы!*

*Паэзія — як музыка душы.*
*Паэзія — як роснае світанне.*
*Як васілёк узнёслы на мяжы.*
*Паэзія — надзея і адхланне.*
*Не трэба на паэзію грашыць,*
*Калі няма асноўнага — душы…*

*Не кожнаму з нас дадзена спазнаць*
*Паэзіі чароўнай таямніцы…*
*Акорды яе срэбныя гучаць,*
*Нібы журчанне чыстае крыніцы.*
*Не кожнаму з нас дадзена спазнаць*
*Паэзіі чароўнай таямніцы…*

*Патрэбна нешта ведаць, каб цаніць,*
*Мець трэба нейкі талент за душою.*
*А вы з наскоку, грэшныя, судзіць.*
*Паэзія, як і душа, — святое…*
*Каб разумець, патрэбна ёю жыць!*
*Не вам, панове, Божае судзіць!..*

***

*Ці можна гэтак жыць:*
*Усё забыць, адрынуць?*
*Як можна разлюбіць*
*І мову, і Айчыну?..*

*Які ж ты беларус?*
*Дзе гонар свой пакінуў?*
*Нясу як цяжкі груз*
*Усе твае правіны…*

*Замецены шляхі.*
*У цемрадзі блукаю.*
*Нясу твае грахі,*
*Хаця сваіх хапае…*

*А як інакш быць?*
*Агульная ў нас драма:*
*Калі табе баліць —*
*Баліць і мне таксама…*

*Бо калі ты паэт —*
*Адказны за ўвесь свет!*
*Інакш і немагчыма:*
*Мой лёс — як лёс Радзімы…*

***

*Зла людзям не рабіў,*
*Не кпіў, не зневажаў,*
*Не гандляваў сумленнем,*
*Як многія навокал...*
*Душу сваю без меры*
*Транжырыў-раздаваў...*
*І вось цяпер жыву,*
*Душою адзінокі.*

*Шкадую не аб тым,*
*Што раздарыў душу...*
*Шкадую, што душа*
*Нікому ўжо не трэба...*
*Не я змяніўся — вы!*
*Я той жа паляшук:*
*Радзіма для мяне —*
*Як луста хлеба.*

*А вы — нібы ваўкі...*
*Як шчэрыце клыкі!*
*Гатовы кожны міг*
*У горла ўпіцца.*
*Што вам мая журба?*
*Што вам мае радкі?*
*Не замярзай,*
*Душы маёй крыніца...*

*Вам, знаю, напляваць*
*На горыч маіх слоў.*
*Для вас даўно*
*Паэзія — пацеха.*
*Мне ж нельга без яе,*
*Мне нельга без радкоў —*
*Да скону мне блукаць*
*Палескім рэхам...*
*І потым, як сыду*
*У вечнасці абшар,*
*Дзе ні шляхоў,*
*Ні зорак над палямі,*
*Вам будзе зіхацець*
*Вясёлкаю між хмар*
*Мая душа*
*Шчымлівымі радкамі...*



Анатоль ДЗЯЛЕНДЗІК

# Карона кахання

*(урывак з драмы)*

На дачы Горкага пад Масквой. У прасторным пакоі за сталом сядзяць Горкі і Купала, п'юць віно. Горкі многа курыць.

ПАЎЛІНА *(гледачам)*. Калі ў Горкага была на кухні — дапамагала гатаваць салату, — пачула размову…

ГОРКІ *(з вялікімі сівымі вусамі, у расшытай каляровым шоўкам цюбецейцы)*. Як вам, немаладому чалавеку, удалося зацікавіць вельмі прыгожую маладую жанчыну — заўважыў, — надзвычайнай жаноцкай прыроды, але ўладную, валявую, энергічную?

ПАЎЛІНА. Я не чула, што адказаў Купала. Але гэта было штосьці дасціпнае, таму што Горкі раптам гучна засмяяўся. Мне было цікава, што ж такога сказаў Купала. Але пытацца не стала. *(Уваходзіць.)* Частуйцеся. Мой фірмовы. Па шчырасці, рэцэпт Вялікага Княства Літоўскага. Смачна есці, Аляксей Максімыч!

ГОРКІ. З задавальненнем! *(Адведаў.)* А князі ведалі толк! Вельмі смачна! Дзякуй! *(Купалу.)* У Беларусі жывуць такія прыгожыя жанчыны? Трэба будзе перадехаць… Паўліна, пасядзіце з намі. Не, сюды, бліжэй. Каб я адчуваў вашае цяпло. Калі побач цікавая жанчына, я маладзею. Хай Купала параўнуе. Пісьменніку карысна.

ПАЎЛІНА *(з прытворнай крыўдай)*. Купала ніколі не раўнуе.

ГОРКІ. Гэта яго памылка. Рэўнасць — стымул для творчасці. *(Пяшчотна павозіць пальцамі па шчацэ Паўліны.)* Цяпер Купала абавязаны пісаць добра. Шчаслівы той паэт, у якога ёсць муза. Калі ён з'едзе ў Маскву, я вас скраду. Дамовіліся?

ПАЎЛІНА. Навошта красці? Сама прыбягу, басаног па траве! А вы напішаце апавяданне «Басаногая Паўліна».

*Смяюцца.*

ГОРКІ. Люблю непрадказальных жанчын! Гэта вялікае шчасце для пісьменніка, калі побач…

ПАЎЛІНА *(перабівае)*. Аляксей Максімыч, над чым вы зараз працуеце?

ГОРКІ *(уздыхнуў)*. Напісаў, стары дурань, адну па-сапраўднаму добрую рэч — «Апавяданне пра нераздзеленае каханне». А ніхто і не заўважыў…

ПАЎЛІНА. Дайце пачытаць.

ГОРКІ. Абавязкова. Калі жанчыны чытаюць мае апавяданні, потым так пяшчотна да мяне ставяцца… *(Смяецца.)*

ПАЎЛІНА *(весела)*. Заманьваеце?

ГОРКІ. І пішу раман пра Кліма Самгіна. Вялікая праца, на многа год. Баюся, не паспею…

ПАЎЛІНА. Паспееце, Аляксей Максімыч!

ГОРКІ *(памаўчаў)*. Яшчэ адна задума не дае спаць. *(Не адразу.)* Хачу напісаць, што Марыя Магдалена… была жонкай Ісуса Хрыста, нарадзіла дзіця.

ПАЎЛІНА. Ну і ну! Вы сур'ёзна?

ГОРКІ. Я знайшоў матэрыялы, якія пацвярджаюць гэта.

ПАЎЛІНА. Але гэта бомба! Супраць вас настроіцца ўвесь хрысціянскі свет!

ГОРКІ. Я гатовы. *(Пільна глядзіць на Паўліну.)* Магчыма, яна была такой… *(Выняў з кішэні блакнот, зрабіў запіс.)*

ПАЎЛІНА. А дзе вы гэта апублікуеце?

ГОРКІ. За мяжой, канечне.

ПАЎЛІНА. Аляксей Максімыч, мне даўно не дае спакою фраза з «Песни о Соколе»: «Высоко в горы вполз уж…» Навошта? У дзяцінстве я гуляла з вужамі, плавала з імі. Яны любяць сырыя, нізкія месцы.

ГОРКІ. Ох, прыдзіра! Гэта было так даўно, што я нават не памятаю.

ПАЎЛІНА *(глядзіць на Купалу, гарэзліва)*. Можна, я распавяду?

*Купала паціскае плячыма.*

Калі ішлі сюды, вырашылі пакупацца. Плавалі, дурэлі як дзеці, правяралі, ці можна цалавацца пад вадой…

ГОРКІ. Ну, і што — можна?

ПАЎЛІНА. Можна, толькі вада трапляе ў рот…

*Смяюцца.*

А потым выйшлі на бераг. Купала гаворыць: «Ты можаш зняць купальнік?» Азірнуўшыся па баках, я распранулася. Ён з хвіліну глядзеў, потым кажа: «Апранайся». Не ведаеце, Аляксей Максімыч, нашто ён мне такое прапанаваў?

ГОРКІ. Я ўпэўнены, у гэтую хвіліну ў ягонай галаве нарадзіліся выдатныя вершы. Але ці здолее ён іх апублікаваць? Не Сафо…

ПАЎЛІНА *(весела)*. Янка, апублікуеш? Чаго маўчыш?

ГОРКІ. Я некалі сказаў, што на Беларусі ёсць два таленавітыя паэты — Якуб Колас і Янка Купала. Надзвычай цікавыя хлопцы!

КУПАЛА. Аляксей Максімыч, я вам удзячны за тое, што пераклалі на рускую мову «А хто там ідзе?».

ГОРКІ. Няма за што. А вы перакладзяце на беларускую «Жизнь Клима Самгина», усе тамы. Вось і разлічымся.

*Смяюцца.*

ПАЎЛІНА. ...Я зноў пра раку. Бачыў мяне аголеной столькі разоў…

ГОРКІ. І кожны раз у ягонай галаве нараджаліся цудоўныя вершы… Гэта зразумее толькі мужчына, які, як вядома, любіць вачыма. Ну, і паэт. І што, нічога не сказаў?

ПАЎЛІНА. «Шкада, што я не мастак».

ГОРКІ. Так гэта можна паправіць! Паўліна, купіце яму пэндзаль, фарбы, няхай вучыцца. А праз колькі год свет будзе захапляцца не «Венерай, якая спіць» Джарджонэ, а «Паўлінай, якая купаецца» мастака Янко Купалонэ. *(Смяецца.)*

ПАЎЛІНА. Янка, згодны?

КУПАЛА. Бяжы па фарбы.

ГОРКІ *(напаўняе келіхі, весела)*. Душэўна сядзім!

ПАЎЛІНА. Мне шмат не трэба! Калі вып'ю, раблюся шалёнай.

ГОРКІ. Шалёная жанчына — гэта цудоўна! Паўліна, за вас! Будзьце такой жа прывабнай доўгія гады!

*Чокаюцца. П'юць. Паўліна ўстае з-за стала, гарэзліва танчыць.*

ПАЎЛІНА. Мужчыны! Хто падтрымае?

ГОРКІ. Брава! *(Устае, накіроўваецца да Паўліны, танчаць.)*

ЦІХІ ХРЫПАТЫ ГОЛАС З КАЎКАЗСКІМ АКЦЭНТАМ. Аляксей Максімыч, дзе вы?

ГОРКІ *(нягучна)*. Іосіф Вісарыёнавіч! *(Уздыхае.)* Будзе ўгаворваць, каб напісаў пра яго кнігу...

ПАЎЛІНА. Не хочаце пісаць?

ГОРКІ. Не магу!.. *(Круціць галавой.)*

ПАЎЛІНА. У васямнаццатым годзе пра Леніна і бальшавікоў вы пісалі адмоўна. Проста катэгарычна. Пасля смерці праваднага — панегірык. Калі вы былі шчырым?

ГОРКІ. Ох, язва!.. Пра мёртвых альбо добра, альбо нічога. *(Сыходзіць.)* Я тут, таварыш Сталін!

*Паўліна жэстам паказвае Купалу выхад у іншы бок. Схіліўшыся, знікаюць.*

***

*У доме Горкага. Недзе ціха гучыць танцавальная музыка. Купала і Яжоў, худы, невысокі, у шырокай фуражцы, на рамяні кабура для нагана. За акном працягваецца навальніца.*

КУПАЛА *(Яжову)*. Пакажыце рукі… Дык гэта і ёсць «яжовыя рукавіцы», якіх усе баяцца?

ЯЖОЎ *(разлівае каньяк у чаркі, усміхаецца)*. А як жанчыны любяць гэтыя рукі! Моцныя, пяшчотныя… Няма ратунку… Глядзіце, не першы прыгажун, невысокі. Чарлі Чаплін. Але дасведчаныя жанчыны ведаюць, што ў маленькіх мужчын — вялікія перавагі. Так? *(Смяецца.)*

КУПАЛА. Мікалай Іванавіч, каму варта асцерагацца ў першую чаргу?

ЯЖОЎ. Яжоўшчына — гэта выкараненне ерасі, устанаўленне парадку. Чын-чын!

*Чокаюцца, п'юць.*

КУПАЛА. Гавораць, трапляюць і невінаватыя.

ЯЖОЎ. Дзе дровы сякуць, там трэскі лятуць. Вінаваты — не вінаваты, гэта такая тонкая мяжа… Кшталту жаночай вернасці. Божыцца, што кахае, а тут жа заводзіць палюбоўнікаў. Малюта Скуратаў не разбіраўся, караў смерцю.

КУПАЛА. Так, апрычнік наламаў дроў!

ЯЖОЎ. Ведаеце, калі я адчуваю асаблівую асалоду? Калі камандзіры дывізій, героі грамадзянскай вайны, рослыя красаўцы, на дзве галавы вышэй за мяне, поўзаюць каля маіх ног, са слязамі выпрошваючы жыццё!.. Я чытаў вашу справу.

КУПАЛА. Маю?! Справу?!

ЯЖОЎ. Чаму вы не ў партыі?

КУПАЛА. Я беспартыйны бальшавік. І гэтым ганаруся…

ЯЖОЎ *(з іроніяй)*. Няўжо?

КУПАЛА. Я з радасцю буду выконваць усе тыя задачы, якія паставіць перада мной партыя бальшавікоў.

ЯЖОЎ. А дакладней?

КУПАЛА. Аддам усю сваю творчасць, а калі будзе патрэба, то і жыццё за вялікую справу нашай савецкай радзімы, за ідэі Леніна-Сталіна.

ЯЖОЎ. Як піянер на ўроку… Калі б я мог вам верыць!

*Купала паціскае плячыма, разводзіць рукамі.*

У дваццатым годзе вы распрацоўвалі першую канцэпцыю незалежнай беларускай дзяржавы.

КУПАЛА *(усміхнуўся)*. Ад вас нічога не скрыецца. Тое былі накіды. У палітыку ніколі не ўмешваўся. Я паэт.

ЯЖОЎ. Бралі ўдзел у «Саюзе вызвалення Беларусі»... Навошта вам незалежнасць? Без абароны Савецкага Саюза палякі мігам праглынуць! І зробяць усіх батракамі!

КУПАЛА *(уздыхнуў)*. Кожны народ марыць пра незалежнасць. Няўжо руская, дзвесце год пад татарамі, не думалі пра волю? Потым вызваліліся.

ЯЖОЎ. Нацыяналіст?

КУПАЛА. Патрыёт.

ЯЖОЎ. Гэта тое ж самае. Бывалі за мяжой, знаходзіліся ў сардэчных стасунках з нацыяналістамі. Выпівалі, абдымаліся. Гэта можа насцярожыць.

КУПАЛА. Імкнуся, каб нішто не насцярожыла.

ЯЖОЎ. А мы праверым.

КУПАЛА *(памаўчаўшы)*. Якім чынам?

ЯЖОЎ. Сакрэт следства. Калі ёсць грахі, маліцеся за сябе! Што гэта за асоба з вамі?

КУПАЛА. Паўліна Мядзёлка, даўняя сяброўка.

ЯЖОЎ. Добра яе ведаеце?

КУПАЛА. Як самога сябе. Першае каханне.

ЯЖОЎ. Гэта нічога не значыць. Цёмная асоба. Мы яе праверым.

КУПАЛА *(павысіў голас, з раздражненнем)*. У Польшчы яна працавала на нашу разведку, на вас! Сядзела ў польскіх турмах!

ЯЖОЎ. Якраз там яе і маглі пераверабаваць.

*Памаўчалі.*

КУПАЛА. Нікому не верыце?

ЯЖОЎ. Нават сабе. Іншы раз хочацца арыштаваць Яжова і паставіць да сценкі — за мяккацеласць. Вось так, братка-беларус.

КУПАЛА. Клінічны дыягназ?

ЯЖОЎ *(усміхнуўся)*. Такая праца ў маршала Яжова. *(Памаўчаў.)* Першыя вершы — на польскай. Шляхціц, католік. Значыць, паляк?

КУПАЛА. Мы ні польскія, ні рускія. Мы беларусы, наследнікі Вялікага Княства Літоўскага.

ЯЖОЎ. Ого! Я меркаваў, вы савецкія. Ну, і дзе ваша вялікае княства? Прафукалі на балях?

КУПАЛА. У нас былі надта агрэсіўныя суседзі.

ЯЖОЎ. Нават Вільня, сталіца, зараз на тэрыторыі другой дзяржавы.

КУПАЛА. Калі дзялілі нашы землі, нас не пыталіся. *(Моршчыцца.)* Не будзем чапаць гэтую балючую тэму…

ЯЖОЎ. Не думайце, што ваша Беларусь — нявінная дзяўчына. Мы арыштавалі шэсцьсот тысяч чалавек. Расстралялі каля трыццаці тысяч.

КУПАЛА. Колькі?!

ЯЖОЎ. Забудзьце. Гэтыя звесткі не для друку. За разгалашэнне — Салаўкі ці Калыма.

КУПАЛА *(з надзеяй)*. Мікалай Іванавіч, арыштаваных пісьменнікаў — не расстралялі? Ім захавалі жыццё? Квецень нацый!

ЯЖОЎ. Разумею, сярод іх шмат вашых сяброў. Але гэта ворагі.

*За вокнамі бліснула маланка, шматкрат грымнуў гром.*

КУПАЛА. Божа мой! Дапамажы мне!

ЯЖОЎ. Думаеце, мне іх не шкада? Гэта ж нашы людзі, авечкі, што заблукалі. У кожнага сям'я, дзеці. Колькі добрых спраў маглі зрабіць для краіны! Але няма часу перавыхоўваць. Вось-вось пачнецца вайна…

КУПАЛА. Вы ўпэўнены?

ЯЖОЎ. Ведаю, што кажу. Трэба ўмацоўваць тыл. Каб потым здраднікі і паліцаі не стралялі нам у спіну.

КУПАЛА. Мае калегі ніколі не стануць страляць у сваіх, тым больш у спіну...

ЯЖОЎ. Чаму вашы вершы савецкага перыяду слабейшыя за дарэвалюцыйныя?

КУПАЛА. Няўжо? Магчыма, таму, што я тады быў маладзейшым. А маладосць для паэта…

ЯЖОЎ. Ці ж у тым справа?

*Памаўчалі.*

Былі ўчора ў Яўгеніі, маёй жонкі?

КУПАЛА. Там было шмат гасцей. Пісьменнікі, спевакі, кампазітары…

ЯЖОЎ *(задумліва)*. Хочаце, раскажу прытчу? У мой куратнік панадзілася лісіца. Крадзе курanят. Што зрабілі б вы?

КУПАЛА. Прыстрашыў.

ЯЖОЎ. І толькі? Ну не! *(Раз'ярыўся.)* Трэба так ударыць па лапах, каб і хвост адваліўся!

КУПАЛА. Не занадта?

ЯЖОЎ. Вось чаму мяккацелыя інтэлігенты не могуць працаваць у органах! А гэта ж ваш сябра, Аляксей Максімыч, напісаў: «Калі вораг не здаецца, яго знішчаюць». Дарэчы, дарагі, вы не крадзяце маіх куранят?

КУПАЛА. Нашто? У мяне свае.

ЯЖОЎ. Чужыя смачнейшыя! *(Смяецца.)* Жартую! *(Пляскае Купалу па плячы.)*

*Танцавальная музыка робіцца грамчэй, жаночы смех.*

Пайшлі. Прывезлі дзяўчат. *(Нагбом п'е каньяк.)*

КУПАЛА. Я ж гаварыў — у мяне свае куранята…

ЯЖОЎ *(смяецца)*. Вы хаця б паглядзіце на іх! Пісьменнік, дзе ваша цікаўнасць?

КУПАЛА. Прабачце, кахаю сваю жанчыну.

ЯЖОЎ. Ну і што? Я таксама люблю жонку! Але гэта зусім іншае — паляванне, забаўлянка…

КУПАЛА. Я чуў, сярод іх ёсць жонкі арыштаваных.

ЯЖОЎ. Бываюць.

КУПАЛА. Як гэта растлумачыць?

ЯЖОЎ. Едуць добраахвотна. Спадзяюцца, што змогуць дапамагчы мужам. Люблю такіх. З якой гатоўнасцю аддаюцца, як стараюцца дагадзіць! Не ведаючы, што ўжо ўдовы. Прыгавор — дзесяць год без права перапіскі… Іншыя кабеткі — жыццё бярэ сваё. Мы шыкоўна частуем.

КУПАЛА. Памінкі? Маленькае, але свята?

ЯЖОЎ. Не ідэалізуйце людзей, паэт. Ідзём. Сушыце маладую ўдаву.

*Купала круціць галавой.*

*(Усміхнуўся.)* Шкада, што не ўсе пісьменнікі гуманісты… *(Сыходзіць.)*

# Сустрэча праз стагоддзі

**Параўнаць вытанчаную паэзію Лі Хэ з самабытнай творчасцю Максіма Багдановіча — смелы эксперымент, на які наважыліся юныя беларускія перакладчыкі ў «Кітайскім сшытку» 12-га нумара часопіса «Маладосць». Пра што б размаўлялі творцы, адзін з якіх жыў у VIII, а другі — у XX стагоддзі, на сустрэчы ў прасторах Сусвету? Што зрабіць, каб маладыя кітаязнаўцы з Беларусі адчувалі сябе больш упэўнена і не ведалі перашкод для працы? Пра ўсё гэта ішла размова на прэс-прэзентацыі часопіса ў Выдавецкім доме «Звязда».**

Першае параўнанне Багдановіча і Лі Хэ выйшла пад назвай «Адзінота ў вялікім горадзе». Яго аўтар, Канстанцін Касяк, прызнаецца, што, калі яму прапанавалі знайсці агульнае ў паэзіі такіх розных, аддаленых адзін ад аднаго ў часе і прасторы, творцаў, ён вельмі разгубіўся. Але працу распачаў. Сябра археолаг навёў маладога чалавека на думку, што ўсе людзі сэрцам, душою вельмі падобныя, нягледзячы на імклівае развіццё грамадства. Аказалася, што Лі Хэ ў сваім вершы «Сталіца» і Багдановіч у творы «Вільня» разважаюць пра адно і тое ж — адзіноту сярод вялізнага натоўпу, жаданне знайсці месца ў жыцці…

Маргарыта Латышкевіч, якая зрабіла другое параўнанне паэтаў пад сімвалічнай назвай «Васілёк і Лотаць», лічыць, што Усход і Захад, нягледзячы на вечныя спрэчкі, удала сышліся на глебе творчасці.

«Мы не настолькі адрозніваемся, каб не разумець адзін аднаго. Таму заўсёды можам знайсці агульную мову. Гэта непасрэдна тычыцца Беларусі і Кітая. Калі я ўпершыню знаёмілася з паэзіяй Лі Хэ, то чытала не толькі яго вершы (у цудоўным перакладзе Алены Рамаmaking ноўскай), але і спрабавала вылучыць як мага больш цікавага з яго біяграфіі — каб узнавіць партрэт асобы. Кропак судакранання ў вершах Лі Хэ і Багдановіча вельмі шмат. Акрамя таго, на жыццё абодвух быў накладзены суровы адбітак хваробы, і барацьба з ёй адлюстравалася ў творчасці. Тым не менш абодва былі досыць жыццярадаснымі. Упэўнена: калі б яны сустрэліся недзе на прасторах Сусвету, размова была б вельмі канструктыўнай», — падзялілася думкамі аўтар.

Намеснік дырэктара Рэспубліканскага інстытута кітаязнаўства імя Канфуцыя Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта спадарыня Лю Сулін, якая таксама прысутнічала на прэзентацыі «Маладосці», адзначыла, што культурныя сувязі паміж краінамі прыкметна ўмацоўваюцца з кожным годам: з'яўляюцца новыя ініцыятывы і праекты, якія шырока падтрымліваюцца на дзяржаўным узроўні.

«Для перакладчыкаў адкрыты старонкі не толькі часопіса «Маладосць», але і іншых выданняў Выдавецкага дома «Звязда» — «Нёмана», «Полымя», «Бярозкі» і нават «Вожыка». Спадзяёмся, хутка з'явяцца пераклады сатырычнай альбо гумарыстычнай літаратуры Кітая. Праектам «Кітайскі сшытак» мы захавалі традыцыі супрацоўніцтва, па-першае, з філалагічным факультэтам БДУ, па-другое, — з Рэспубліканскім інстытутам кітаязнаўства імя Канфуцыя. Чакаем ад моладзі новых ініцыятыў!» — раскрыў тэму дырэктар — галоўны рэдактар Выдавецкага дома «Звязда» Алесь Карлюкевіч.

Адна з ідэй сапраўды з'явілася падчас размовы — выданне беларуска-кітайскага слоўніка. Палова поспеху «Кітайскага сшытка» — пераклады студэнтаў і магістрантаў кафедры кітайскай філалогіі філфака БДУ, у тым ліку Кацярыны Гардзей (проза) і Марыі Мішкінь (паэзія). Менавіта яны прапанавалі стварыць універсальную кнігу-дапаможнік.

Па словах паэта Міколы Мятліцкага, дзякуючы якому з'явіўся ўжо амаль легендарны праект-анталогія перакладаў кітайскіх вершаў «Пад крыламі Дракона. Сто паэтаў Кітая», сёння на Беларусі шмат таленавітых маладых сіл, якія імкнуцца вывучаць кітайскую мову. «Мы адкрываем цэлую цывілізацыю, якая, між іншым, ні на хвіліну не спыняла свайго развіцця. Нягледзячы на цяжкі і неспакойны час, калі ў дзяржаве ёсць зброя прыгожага слова — паэзія непераможная. Кітайская паэзія — гэта творчасць глыбокіх пачуццяў і вялікага зместу. Яна вельмі захапляе, і яе нельга не вывучаць з асалодай і цікаўнасцю», — падсумаваў Мікола Мятліцкі.

**Марыя ВОЙЦІК**

# Гульня іерогліфаў

## Калі алюзіі цікавейшыя за вынаходніцтвы

**Спецыялістаў, якія перакладаюць кітайскую паэзію на беларускую мову з арыгінала, можна злічыць на пальцах. Сярод такіх унікальных асоб — кітаістка Алена Раманоўская: менавіта яна спрычынілася да стварэння «Кітайскага сшытка» ў «Маладосці». У гутарцы з карэспандэнтам «ЛіМа» распавядае не толькі пра тонкасці перакладу, але і пра літаратурнае жыццё ў дзівоснай краіне, дзе налічваецца 10 мільёнаў пісьменнікаў.**



*Фота Кастуся Дробава.*

**— Спадарыня Алена, напэўна, вам нярэдка даводзіцца распавядаць, чаму вы зацікавіліся кітайскай мовай і культурай...**

— У школьныя гады збіралася звязаць жыццё з замежнымі мовамі і арыентавалася на англійскую. Але адбылося нечаканае: у Мінскі лінгвістычны ўніверсітэт на англійскую мову я не трапіла, затое праз год паступіла ў БДУ на кафедру ўсходніх моў, дзе выбрала для вывучэння кітайскую. Потым ніколі не шкадавала, што прыйшла ў кітаістыку, бо гэта надзвычай цікава. Вядома, вучоба была складанай, мы мусілі штодня прапісваць іерогліфы, завучваць лексіку, засвойваць граматыку, вывучалі не толькі кітайскую мову, але і шматбакова знаёміліся з Кітаем і іншымі краінамі Усходу. Яркія ўспаміны засталіся ад стажыроўкі ў Кітаі, якая працягвалася цэлы год і дазволіла пабачыць шмат цудоўных мясцін, пазнаёміцца з цікавымі людзьмі, адчуць смак кітайскага жыцця.

**— Перакладаць з кітайскай больш складана, чым з англійскай ці іншай еўрапейскай мовы?**

— Так, больш складана. Але гэта залежыць і ад тэксту. На маю думку, тэхнічны тэкст перакладаць лягчэй — асабліва пасля таго, як засвоіш лексіку, увойдзеш у тэматыку. Мастацкаму тэксту ўласцівая сэнсавая шматзначнасць, вобразнасць, адпаведна, больш выразна праяўляецца спецыфіка кітайскай мовы: з'яўляецца гульня іерогліфамі, супастаўленне элементаў іерогліфа… Звычайна ў творы кітайскай літаратуры ёсць шмат сэнсавых пластоў, якія хаваюцца ў алюзіях, паралелізмах. Гэта хочацца адлюстраваць у перакладах, але не заўсёды атрымліваецца. Штосьці перадаць увогуле немагчыма.

Іерагліфічная пісьмовасць пабудавана на іншых прынцыпах, чым еўрапейскія мовы. Іерогліф — гэта вобраз ці спалучэнне вобразаў: вада, вока — слёзы, чалавек, дрэва — адпачынак. Элементы камбінуюцца і ўтвараюць розныя паняцці. Пры гэтым адпаведнікам іерогліфа служыць слова ці нават некалькі слоў, таму аб'ём кітайскага арыгінальнага тэксту недзе ў тры разы меншы, чым аб'ём беларускага перакладу.

**— Наколькі кітайцы цікавяцца літаратурай?**

— У Кітаі, пачынаючы з VII стагоддзя, кожны, хто збіраўся стаць чыноўнікам, здаваў дзяржаўныя іспыты трох узроўняў, дзе трэба было прадэманстраваць веданне класічных тэкстаў і напісаць уласны верш. У вершатворчасці дапамагалі слоўнікі рыфмаў. Вершы танскай эпохі, якія захаваліся да нашага часу, складаюць безліч тамоў, гэта служыць яркім адлюстраваннем таго, якую вялізную значнасць мела літаратура ў тагачасным грамадстве.

**— Ці змянілася сітуацыя на працягу стагоддзяў?**

— Веданне класічных тэкстаў і сёння выклікае павагу і захапленне ў кітайцаў. Штогод у краіне выдаецца тры тысячы новых раманаў, а, паводле звестак Інстытута Канфуцыя ў Санкт-Пецярбургу, сёння ў Кітаі налічваецца каля дзесяці мільёнаў пісьменнікаў. У кнігарнях заўсёды багата пакупнікоў, не менш актыўна кітайцы карыстаюцца і электроннымі гаджэтамі.

**— Кітайцы па-ранейшаму любяць паэзію альбо аддаюць перавагу прозе?**

— Паэзія застаецца запатрабаванай, але ў Кітаі яна прадстаўлена трошкі інакш, чым у Беларусі. На літаратурных вечарынах працягваецца традыцыя дэкламацыі вершаў пад музыку («жывую» ці гуказапіс). А зборнікі вершаў заўсёды маюць добрае афармленне і прыгожыя ілюстрацыі. Іерогліфы змяшчаюцца побач з малюнкам. У старажытнасці малюнак і верш належалі аднаму аўтару, сёння гэта неабавязкова. Мяркую, што зборнікі перакладаў кітайскай паэзіі таксама павінны быць ілюстраванымі. Бо кітайская паэзія заўсёды спалучалася з іншымі відамі мастацтва.

Што тычыцца прозы, то сярод моладзі цяпер папулярныя любоўныя раманы, якія ў межах традыцыйнай кітайскай культуры былі забароненыя. Адпаведна патрабаванням канфуцыянства, было непажадана адкрыта выказваць эмоцыі. Таму ў класічнай паэзіі аўтар часта перадаваў пачуцці праз вобразы прыроды. Замест таго, каб сказаць «я сумую, я далёка ад дому», паэт пісаў «малпы крычаць» — і тагачасны чытач разумеў, што мелася на ўвазе...

**— Якія асноўныя ідэі і тэмы можна вылучыць у сучаснай кітайскай літаратуры?**

— Яна вельмі разнастайная паводле тэматыкі і стылю, на яе моцна паўплывалі еўрапейскія тэндэнцыі. Шмат твораў досыць песімістычных. Мне здаецца, што зварот да тупіковых сітуацый тлумачыцца радыкальнымі культурнымі зменамі ў XX стагоддзі. Эканамічныя поспехі, якія сталі вынікам палітыкі рэформ і адкрытасці, зрабілі Кітай адной з самых магутных краін свету. Але матэрыяльны дабрабыт не заўседы вядзе да вырашэння праблем духоўнага развіцця. Яшчэ з 80-х гадоў кітайскія пісьменнікі — Ван Дзэнцы, Дэн Юмэй — актыўна звяртаюцца да тэмы захавання нацыянальных традыцый, гэта літаратурная плынь вядомая як «пошук каранёў».

**— Цягам апошняга стагоддзя ў еўрапейскай літаратуры стаў папулярным вольны верш. Ці заўсёды сучасныя кітайскія паэты звяртаюцца да рыфмы?**

— Сучасныя вершы часта маюць розную даўжыню радкоў і пазбаўлены рыфмы. Мяжа паміж паэзіяй і рытмізаванай прозай робіцца надзвычай умоўнай. Затое класічная кітайская паэзія была абавязкова рыфмаванай, існавалі складаныя правілы танальных камбінацый.

Перакладчыкі кітайскіх вершаў сёння па-рознаму ставяцца да неабходнасці рыфмы. Нямецкія перакладчыкі рыфмуюць тэкст, англійскія — не, у Расіі суіснуюць абодва падыходы. Але характэрна, што перакладчыкі-кітайцы, якія ўзнаўляюць творы сваіх паэтаў на еўрапейскіх мовах, імкнуцца пераклады рыфмаваць. Лічу, што, калі вершы былі рыфмаваныя падчас напісання, іх трэба рыфмаваць і сёння, хаця многія іерогліфы цягам стагоддзяў пачалі чытацца па-іншаму.

**— У чым асаблівасці кітайскай паэзіі? Больш літаратурных рэмінісцэнцый, больш канкрэтных пазнак — паведамленняў пра час і месца дзеяння, канкрэтна-гістарычную жыццёвую сітуацыю аўтара?..**

— Для кітайскай класічнай паэзіі ўласцівая традыцыйнасць, паўтарэнне паэтычных вобразаў, вядомых сюжэтаў ці сітуацый. Калі паэт ужываў цытаты з папярэдніх твораў, гэта сведчыла пра яго высокую адукаванасць. Радасць для кітайскага чытача была не столькі ў тым, каб даведацца пра штосьці новае, колькі ў тым, каб узгадаць мінулае, пазнаць яго праз цытаты з твораў ранейшых паэтаў. Працягнуць традыцыю і не згубіць веды папярэдніх пакаленняў.

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

### Даведка «ЛіМа»

Алена Раманоўская — выкладчык кітайскай мовы, практыкі перакладу на кафедры мовазнаўства і краіназнаўства Усходу Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Займаецца мастацкімі перакладамі кітайскай класічнай паэзіі, сучаснай прозы, тэарэтычным даследаваннем праблем мастацкага перакладу. Разам з выкладчыкамі і студэнтамі кафедры рыхтавала пераклад кнігі «Беларусь вачамі кітайцаў» (2014).

**Апошні нумар часопіса «Маладосць» за мінулы год змяшчае «Кітайскі сшытак», дзе прадстаўлены творы кітайскіх аўтараў у арыгінальным перакладзе на беларускую мову. Асобныя яго старонкі рэдакцыя «ЛіМа» прапануе ўвазе чытачоў.**

# Адзінае, ува што апрануты сусвет



## Сюй ЧЖЫМО (1897 — 1931)

Нарадзіўся ў горадзе Хайнін правінцыі Чжэцзян. Пасля заканчэння Пекінскага ўніверсітэта пераехаў у ЗША, дзе прадоўжыў навучанне па спецыяльнасці «Банкаўская справа». У 1921 годзе стаў аспірантам Кембрыджскага ўніверсітэта, але праз два гады вярнуўся ў Кітай. У 1923-м заснаваў паэтычную суполку 新月社 («Маладзік»), з 1924-га — прафесар Пекінскага ўніверсітэта. Аўтар некалькіх паэтычных зборнікаў, цыклаў эсэ і апавяданняў.

*Над прадстаўленымі ўвазе чытача перакладамі вершаў паэта працавалі студэнты і магістранты філалагічнага факультэта БДУ.*

### Я чакаю цябе

*Я чакаю цябе.*
*Я гляджу ў прыцемкі за вокнамі,*
*Быццам гляджу ў будучыню,*
*І стук майго сэрца аглушае мяне.*
*Чаму ты не йдзеш? Чакаю,*
*А кожную хвілю могуць распусціцца*
*кветкі.*

*Я чакаю твае крокі,*
*Твой смех, твой твар,*
*Твае мяккія валасы,*
*Чакаю цябе ўсю.*
*Кожную хвіліну могуць*
*Засохнуць кветкі — ты дзе?*
*Ты мне патрэбна, патрэбна да болю*
*ў сэрцы,*
*Мне патрэбны твой радасны смех,*
*Твой жвавы стан,*
*Іскры ў кутках тваіх вачэй;*
*Я ў палоне тваёй чароўнасці,*
*Быццам востраў сярод бурных вод,*
*Бязвольна гайдаюся.*
*О, я напружана чакаю,*
*А гэтая цудоўная смакоўніца*
*Вось-вось расквітнее!*
*Чаму ж ты не йдзеш, бессардэчная!*
*Я разумею, о, я ведаю, што ты*
*разумееш,*
*Калі ты не прыйдзеш — гэта*
*страшэнна*
*для мяне,*
*Ты заб'еш раптоўную вясну ў маім*
*жыцці,*
*І мой подых і думкі будуць сціснуты*
*Моцнай, як жалеза, цемрай.*
*Заб'еш мае вартыя жалю парасткі*
*надзеі,*
*Мяне, як зняволенага, перадасі*
*зайздрасці,*
*Горкім пакутам і безнадзейнай*
*жорсткасці.*
*Глупства. Канечне ж, глупства.*
*Я ўпэўнены ў гэтым.*
*Але я не магу змяніць курс,*
*Вецер, што сціх, не дазваляе мне*
*сумнявацца —*
*Я не здольны вярнуцца, лёс падганяе*
*мяне!*
*Я ведаю, што гэта*
*Знішчальны шлях для мяне, але*
*Дзеля цябе, дзеля цябе*
*Я на ўсё іду добраахвотна;*
*І не толькі маё сэрца,*
*Але і галава так кажа мне.*
*Дурны! Хачу парваць ніці жыцця,*
*Толькі каб узрушыць дзявочае сэрца!*
*Хачу здабыць, хачу здабыць*
*Хаця б яе слязінку,*
*Хаця б імгненную халодную ўсмешку;*
*Але я іду на ўсё добраахвотна! Нават*
*Здрадзіць сабе і сваёй каменнай волі.*
*Хай яна*
*Ўспрыме мяне хоць пацуком, хоць*
*чарвяком —*
*Я на ўсё іду добраахвотна!*
*Звар'яцеў. Безумоўна,*
*Імператар таксама вымушаны адысці*
*ад спраў,*
*Калі няздольны валодаць сваім сэрцам,*
*Як генерал часам павінен адазваць*
*салдата з лініі агню.*
*Марна, усё марна,*
*Тое, што ты не прыйдзеш, ёсць праўдай.*
*Я прагну цябе,*
*Тваіх валасоў, твайго смеху, тваіх рук*
*і ног;*
*Усе гэтыя глупыя мары ды малітвы*
*Няздольныя скараціць і на адзін цунь*
*Адлегласць паміж намі!*
*Прыцемкі за вокнамі*
*Даўно ўжо пераўтварыліся ў глыбокую*
*ноч,*
*Галіны дрэў пакрыліся шэранню,*
*Вераб'і адспявалі свае песні.*
*Цішыня — гэта адзінае, ува што*
*апрануты Сусвет.*
*Калі бесперапынная стрэлка гадзінніка,*
*Быццам бы містычная рука,*
*Што паказвае, спачувае, падказвае,*
*Кожны раз адстуквае гадзіну,*
*Я чую пахавальны звон свайго сэрца.*

**Пераклад Мар'і МІШКІНЬ**

### Блуканне

*У той дзень ты лунала ў небе, блукаючы*
*Свабодна і грацыёзна, ты не жадала*
*застацца*
*Ці на тым краі неба, ці ў тым*
*кутку зямлі.*
*Ты радасна блукала без перашкод,*
*Нішто не хвалявала цябе ў гэтым*
*пакорным месцы,*
*Якое мае бруісты ручай, хоць ты*
*такая прыгожая.*
*Калі час афарбаваны ў мінулае,*
*яно няўлоўна.*
*Прачнуўшыся, абдымаючы твой*
*прыгожы сілуэт,*
*Яго туга абхапіла моцна,*
*Таму што прыгажосці немагчыма*
*знаходзіцца ў спакоі сярод пейзажу:*
*Ён хоча, каб ты перасекла тысячу*
*горных пагоркаў,*
*Адкінула цень на вялікія азёры.*
*Ён схудне, як гэты бруісты ручай,*
*Бездапаможна спадзявацца,*
*спадзявацца, што ты прыляціш*
*назад.*

**Пераклад Аляксандры БЕРАЗНЯЦКАЙ**

### Снежная радасць

*Калі б я быў сняжынкай,*
*То ўзнімаўся б у небе свабодна,*
*Пазнаў абавязкова б кірунак свой.*
*Лунаю, лунаю, лунаю —*
*Да зямлі кірунак мой.*
*Не лячу ў маўклівую цясніну,*
*Не лячу ў маркотнае падножжа,*
*Не адчую я суму закінутай вуліцы.*
*Лунаю, лунаю, лунаю —*
*Паглядзі, вось ён, кірунак мой!*
*Кружуся ў небе чароўна,*
*Пазнаю спакойныя мясціны,*
*Чакаю яе прыходу ў сад.*
*Лунаю, лунаю, лунаю —*
*Ах, водар цынобры на целе яе!*
*У той час лёгкі празрысты*
*Закрануў я падол адзення яе,*
*Дакрануўся да сэрца яе,*
*Падобнага да хвалі пяшчотнай,*
*Таю, таю, таю —*
*Растваряюся ў сэрцы яе, падобным*
*да хвалі пяшчотнай.*

**Пераклад Вольгі АНТОНЕНКА**




Марына Эльяшэвіч і Чжан Хунвэй. 2015 г.
З выстаўкі «Саюз творчасці і кахання» да 100-годдзя вянчання Янкі Купалы і Уладзіславы Станкевіч (Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы).

# У дванаццатым месяцы

## Лі Хэ (790 — 816)

Кітайскі лірык Лі Хэ за сваё нядоўгае жыццё паспеў стварыць больш як 200 вершаў. Паэт, адрынуты грамадствам, шукаў суцяшэння або ў коле сяброў, або на ўлонні прыроды. У сваёй творчасці ён увасобіў мару пра шчаслівае жыццё на зямлі.

### З цыкла «Коні»

**(верш 2-і)**

*У дванаццатым месяцы*[1]
*Смачныя траў карані,*
*Ды й карэнне даўно*
*Пазанесена снежным пластом.*

*Хіба час разважаць,*
*Што цвярдзей, што мякчэй,*
*зараз дні,*
*Калі мушу я голад*
*Прыглушваць калючым кустом*[2]*.*

*Каментар:*
[1] *Дванаццаты месяц — дванаццаты месяц па месяцовым календары.*
[2] *Калючы куст — звязкі калючых кустоў (для абароны лагера ад нападу).*

### Бамбук

*Ледзь-ледзь трымцяць святлом зіхоткім*
*хвалі,*
*Пагойдваюць зялёныя абрысы,*
*Бамбука стромкага прамыя рысы*
*Ажно да неба сініга дасталі.*

*Бамбук раней за ўсіх вясной*
*Фарбуе ўсё ў зялёныя адценні.*
*У парасткаў бамбука атачэнні*
*Сцяжынка вузкая блішчыць расой.*

*І можа прыгажуня сцерці пот*
*З бамбука туга сплеценай цыноўкай,*
*Спатрэбіцца для рыбнай лоўлі бойкай*
*З бамбука вырублены моцны шост.*

*Калі раней служылі пры палацы,*
*Саньлян*[1] *абавязкова надзявалі,*
*Стралу з каленца ўмела выраблялі,*
*Дарылі княжычу як знак аддана́й працы.*

*Каментар:*
[1] *Саньлян — галаўны ўбор арыстакраты, які выраблялся з бамбука.*

### Пішу за[1] Лю Юнем[2]

*Белы квецень*[3] *у вадзе ракі Цінджоў*[4]*,*
*На кані Лю Юнь вяртаецца здалёк,*
*Водар айвы па-над берагам пайшоў,*
*Лёгка ўецца над ракою матылёк.*
*Гукі цыня*[5] *паліліся у пакой,*
*Келіх поўніцца бамбукавым віном*[6]*,*
*Знатны церам збудаваны над ракой,*
*Пара рыбак над пясчаным цёплым дном.*

*Каментар:*
[1] *Пішу за… — жанр вершаў, якія ствараліся па матывах верша іншага паэта. Верш «Пішу за Лю Юнем» напісаны па матывах верша Лю Юня «На мелодыю Цзяннань».*
[2] *Лю Юнь (465—517) — літаратар і чыноўнік часоў Паўднёвых дынастый.*
[3] *Белы квецень — белыя кветкі раскі.*
[4] *Цінджоў — мясцовасць у павеце Усін правінцыі Джэцзян.*
[5] *Цынь — старажытная кітайская цытра, згодна з легендай, першы цынь з'явіўся пры заснавальніку кітайскай цывілізацыі Фу Сі, меў пяць струн (сімвал пяці стыхій), квадратны ніз і акруглы верх (сімвал Зямлі і Неба), вялікія струны, якія сімвалізавалі голас кіраўніка, і малыя струны, якія сімвалізавалі голас народа, цудоўная музыка магла нарадзіцца толькі пры гармоніі гучання вялікіх і малых струн.*
[6] *Бамбукавае віно — сорт добрага віна, якое выраблялі ў правінцыі Джэцзян.*

### Балада нябёсаў

*У кругазваротах Нябеснай ракі*
*Кружыць ноччу зорная безліч,*
*На Срэбраным беразе, як астраўкі,*
*Аблокі пяюць ціха песні.*

*Карычныя дрэвы яшчэ ўсё цвітуць*
*У светлым палацы яшмовым*[1]*,*
*Іх водар прыслужніцы-феі бяруць,*
*На поясе носяць шаўковым.*
*Цсінь Фэй*[2] *падымае фіранку, глядзіць,*
*Паўночны край неба ўжо светлы,*
*А перад акном на паўлоўніі*[3] *спіць*
*Малы сіні фенікс заветны.*

*Умее сын джоўскага князя*[4] *так граць*
*На доўгім бамбукавым шэне*[5]*,*
*Каб склікаць драконаў і дым узараць,*
*Цудоўную яо*[6] *пасеяць.*

*Там феі ў бялюткіх спадніцах плятуць*
*На досвітку пояс ружовы,*
*А потым збіраць архідэі ідуць*
*На яркі пагорак вясновы.*

*На ўсходзе Сі Хэ*[7] *хутка мчыць на кані,*
*Імкліва плывуць часу хвалі,*
*У мора сышлі пылам гор камяні,*
*І зноў з пылу горы паўсталі.*

*Каментар:*
[1] *Яшмавы палац — Месяц.*
[2] *Цсінь Фэй — наложніца цсіньскага князя Му Гуна (659—621 гг. да н. э.).*
[3] *Паўлоўнія (тунгавае дрэва) — дрэва, на якім, згодна з паданнем, жыве фенікс.*
[4] *Сын князя — сын джоўскага князя Лін Вана, які вельмі любіў граць на шэне, нарэшце пераўтварыўся ў сяня (бессмяротнага).*
[5] *Шэн — губны арган, адзін з найбольш старажытных духавых музычных інструментаў.*
[6] *Яо — цудадзейная трава неўміручасці і прыгажосці.*
[7] *Сі Хэ — багіня, што возіць па небе сонца ў калясніцы.*

**Пераклад з кітайскай Алены РАМАНОЎСКАЙ**

# Муза па імені Пушча

З «Кнігарні пісьменніка»

**Аповед пра кнігу Казіміра Камейшы «Чмяліны груд» нельга назваць рэцэнзіяй. Гэтае слова занадта легкаважнае для кнігі, якая сабрала плён 50 гадоў працы, нават трошку болей.**

## ДА СЛОВА

Цікава, што, маючы намер падвесці рысу — не канчатковую, вядома ж, а межавую, падагульняючы пэўны этап, — Казімір Камейша аддаў перавагу не збору выбраных твораў, але збору ўвогуле. Анатацыя пазначае: «сабраныя лепшыя лірычныя творы», але пры ўсёй шчодрасці нельга прызнаць, што лепшых твораў можа быць столькі, — а «Чмяліны груд» сабраў нешта каля 215 вершаў і тры паэмы. У сапраўды лепшае трапляе ад сілы пяць дзясяткаў твораў. У памяці чытача застаецца дзесяць (і гэта надзвычай аптымістычны прагноз). У гісторыі літаратуры… Тут просіцца пытальнік са шматкроп'ем.

Збор кшталту «Чмялінага груду» патрэбны перадусім самому аўтару — каб быць спакойным. Таксама такая кніга спрашчае працу даследчыка літаратуры. Але што да чытача, яму шмат не трэба. Трыста старонак паэзіі — выпрабаванне не жартоўнае. Намнога большай папулярнасцю карысталася б якраз выбранае, тонкая кніжыца старонак на семдзесят у кішэнным фармаце. Каб збольшага зразумець паэта, разгледзець яго твар, дастаткова ўсё таго ж дзясятка лепшых твораў. Каб да канца спазнаць аўтара, мала будзе і поўнага збору.

## НА ПУШЧУ ГЛЕДЗЯЧЫ

Сярод іншых шматлікіх беларускіх песняроў Казімір Камейша — безумоўны пясняр лесу. Лес у яго паўстае ў розных абліччах: родная пушча, бор, гай, дрэвы ў горадзе, лес як сімвал (жыцця, вытоку, зямнога раю). Маленства паэта прайшло на дзедавым хутары, акружаным пушчай («лес пачынаўся ад гумна»). Першыя яго вершы былі пра прыроду. Адзін са зборнікаў называецца «Я з пушчы». І ва ўсякім творы — хоць пра космас, хоць пра каханне — паўстане гэты пушчанскі арнамент з ценяў, пошуму, звярыных




*Кніга для разгляду прадастаўленая «Кнігарняй пісьменніка» (вул. Казлова, 2).*

слядоў, першых кветак, каранёў і сцяжынак. Разам з беларускай мовай паэт атрымаў яшчэ адну — лясную, і на іх абедзвюх прамаўляе ў свет. Нельга нават сказаць «да чытача»: інтанацыя ў вершаў такая, што здаецца: паэт гаворыць адначасова сабе і ўсяму. Пра якую б інтымную рэч ні йшла гаворка, ён увесь нарасхрыст.

Пушча для яго — замест радзімы. Так, Казімір Камейша звяртаецца ў вершах да мамы, да бацькоўскага дому, шкадуючы, што ў маладосці імкнуўся пераступіць парог, а калі вярнуўся — каля парога яго ўжо ніхто не сустрэў. Але звяротаў да пушчы больш. І калі ў вершах пра дом адчуваецца шкадаванне, сум і разуменне, што нічога ўжо не выправіш, то ў вершах пра пушчу іншае: усведамленне, што ад яе нікуды і ніколі не сысці. Ды і як сыдзеш, калі гэта ты і ёсць?

## ПАКОРА І РАЗВАЖЛІВАСЦЬ

Што яшчэ вельмі важна, вызначальна датычна творчасці Казіміра Камейшы: ён ніколі не ставіць сябе вышэй за тое, пра што прамаўляе. Калі гэта Пушча — то ён, паэт, толькі частка яе, якая, у адрозненне ад дрэва, мае магчымасць вандраваць, але карані ўсё адно застаюцца там, у Пушчы. Калі размова ідзе пра Час — паэт не абвінавачвае яго ў хуткаплыннасці, у жорсткасці, абыякавасці. Па-першае, якая з таго карысць? Па-другое, у радках Камейшы выразна адчуваецца такі сабе пушчанскі спакой. Паэт прытрымліваецца думкі, што Час аб'ектыўны, яго хада ніяк не залежыць ад чалавека. Час быў да з'яўлення матэрыяльнага свету і будзе, калі не стане нічога. Ён не кажа пра гэта наўпрост; філасофская лірыка ўвогуле нехарактэрная для Казіміра Камейшы. Але паасобныя заўвагі, назіранні за сабой у свеце даюць падставы для такой высновы.

І калі размова заходзіць пра каханне, на першым месцы аказваецца Жанчына. Цікава, што каханне як з'ява, калі можна так сказаць, у лірыцы Казіміра Камейшы не існуе. То бок, адасоблена, абстрактна яно не разглядаецца. Калі каханне — то абавязкова праз вобраз жанчыны. Гэта адзін з прыкладаў здаровай «матэрыяльнасці» Камейшы, «прыкладнога характару» яго вершаў: у іх аснове заўсёды ляжыць канкрэтны выпадак, успамін, дыялог.

А часам яны складаюцца ў пэўны сюжэт ці намёк на яго. Праз гэта пераважная большасць вершаў Казіміра Камейшы нагадваюць маленькія паэмы, у той час як паэмы, якія ўвайшлі ў змест «Чмялінага груду» — «Дом», «Няміга» і «Галоўная вярста», — больш падобныя да некалькіх вершаў, паяднаных адной тэмай і адным вершаваным памерам. Як цэласны твор яны ўспрымаюцца ўмоўна. Толькі «Галоўная вярста» ў гучанні сваім займела патрэбную «эпічнасць», якая губляецца ў другой частцы паэмы.

## ЯШЧЭ РАЗ ПРА КАХАННЕ

Так, гэтая тэма другасная ў лірыцы Казіміра Камейшы, але вось што цікава: каханне ў яго паўстае альбо ў форме ўспаміну, разам са шкадаваннем, што нешта не склалася, што магло б быць іначай, альбо як нешта грахоўна-выпадковае, маладзецкая прыгода, і распавядаецца пра гэта напаўжартам, са смехам. І ў тых, і ў тых вершах ёсць цудоўныя радкі-знаходкі.

*Калі крычыць застолле: «Гор-к-а-а!» —*
*Камусьці горка сапраўды.*
*Ён у парозе разам з горам*
*Стаіць задуманы тады…*

Але ёсць яшчэ адзін «тып» вершаў, якія быццам бы і не пра каханне, і не пра жарсць, але вобразы ў іх адкрыта эратычныя і наследуюць фальклорнай традыцыі, у якой іншасказальна апісваюцца плоцевыя праяўленні пачуцця («Чмель і ружа»). Такіх вершаў мала, але мастацкай сілай яны не саступаюць звыклай інтымнай лірыцы — калі ўвогуле не пераважваюць. І ў гэтым бачыцца не ўплыў непасрэдна фальклору, але ўсё той жа пушчанскі матыў: мовай прыроды паэт перадае жыццё чалавека.

## МАГІЯ ГУКУ

Пушча гучыць у вершах Камейшы не толькі як тэма — яна проста гучыць. Гукапіс — адзін з моцных бакоў паэта; і часцей за ўсё ён робіць акцэнт на свісцячыя/шыпячыя — нібыта сапраўды імкнецца перадаць шум і посвіст лесу («Гэты домік з цёсу, з цішы, / Чатырох сасновых сцен»; «Мой бор пашуміць і суцішыцца, / І будзе маўклівa стаяць. / Як лодка мая калышацца, / Калосіцца доля мая»; «А расце і цвіце / Дрэва ў бацькавым садзе»).

Таксама ў вершах выбліскваюць арыгінальныя словы: *выкапкам, зазімены, лістаўць, пяюшка, цурболіць, лістанос* (замест *паштара*), *звеснаваў* і інш. Ёсць нават вершы, цалкам збудаваныя на такой словатворчасці («Рэхам з касцёла Роха…»). І, што надзвычай важна, такія словы не выглядаюць імкненнем да арыгінальнасці — яны гучаць натуральна.

## АПРОЧ ІНШАГА

Калі б магчыма было адасобіць пушчу як тэму, у вершах Казіміра Камейшы засталіся б вайна як успамін, прычым з чужых вуснаў; паэтычная маладосць — з Каралішчавічамі, сябрамі, настаўнікамі; мама і сын — вельмі цёплыя, шчымлівыя адносіны і такія ж вершы; як рэха савецкай рэчаіснасці — космас, прага працы і подзвігаў, буйны энтузіязм, захапленне цвёрдым, мужным характарам. Але вершы на апошнія тэмы можна пералічыць па пальцах.

Яшчэ адно «калі»: калі кніга выбранага спраўдзіцца, амаль са стапрацэнтнай упэўненасцю можна сцвярджаць: то будзе кніга пра Лес — і Чалавека ў ім.

**Наста ГРЫШЧУК**

# Жыццё пасля…

**Напрыканцы мінулага года выйшла нямала кніг маладых літаратараў. Шмат перакладаў, прозы, а вось паэзіі — адзінкі. Даўно не з'яўлялася новых жаночых імёнаў. Таму дэбютная кніга вершаў Таццяны Светашовай «Розныя рэчы» стала яркай падзеяй у літаратуры нашай краіны. Аб'ядноўваючы вершы розных гадоў, гэты зборнік, тым не менш, раскрывае перад намі вельмі суцэльнага аўтара, з асаблівым, хай некалькі змрочным, абаяннем.**

Упершыню чытаючы вершы Т. Светашовай, не можаш пазбавіцца ад уражання, што ўсё гэта было напісана да яе. Доўга не адпускаюць асацыяцыі з папсовай расійскай паэтэсай Верай Палазковай. Пры другім і трэцім прачытанні чуеш між радкоў… голас Бродскага, часам нават стройны хор паэтаў сярэбранага веку. Алюзіі і асацыяцыі узнікае так многа, што, здаецца, у гэтых вершах няма самой Таццяны Светашовай. Асаблівасць яе паэзіі — праз поліфанічнасць і цытаванне выражаць сваю індывідуальнасць.

*твоя личика вскорости подурнеет:*
*сложные углеводы, тяжёлый быт*
*но пока тебе тесно в одном городе с нею*
*возвращаешься — и знобит*
*ничего не делай: тебе же хуже —*
*закрывай глаза, уходи под лёд*
*будет долго болеть в рукаве ненужном*
*а потом пройдёт*

***

У Тані Светашовай ёсць уласная мова, якая, аднак, трымаецца традыцый, якую можна назваць мовай «пакаленняў».

Свет, дзе разгортваюцца падзеі вершаў Светашовай, маленькі, утульны і адначасова бяскрайні. Гэта дзівосная лакацыя, асаблівы топас, месца, дзе ўсё, што б ні здарылася, робіцца вельмі важным, знакавым, лёсавырашальным. Хоць з радкоў вельмі дакладна вымалёўваюцца панарамы Мінска, ты ўсё роўна не ўпэўнены да канца, пра які горад ідзе гаворка. Мінск Тані Светашовай — нібы намаляваны простым алоўкам: дзесьці выразнымі лініямі, дзесьці рыскамі, дзесьці пунктырам, адцэнены мноствам гісторый, уражанняў, эмоцый. Паэтэса прывязвае яго, не сябе бачыць часткай яго гісторыі, а яго — героем сваёй.

*В городе постапокалипсис. Пар изо рта.*
*Пять пятнадцать утра. «Сколько до Серебрянки?» —*
*«Сотка». — «Вчера ж было семьдесят». —*
*«Значит, езжай вчера».*

***

*...Там, где теперь гипермаркет открыл бегемотий рот,*
*Ты ещё помнишь пыльное поле с брёвнами вместо ворот,*
*Как все смеялись, что высотку построили криво,*
*И кучи ларьков, рассыпанных, как угри,*
*И повсюду — горки и пустыри,*
*Лучше было ходить с ножом, без ножа — лучше не надо,*
*И рельсы трамвая упирались в самое жерло ада —*
*В Серебрянку-три...*

Лірычная гераіня Тані Светашовай — дарослая дзяўчынка-падлетак, мілая, наіўная, але з вельмі саркастычным пачуццём гумару. Дзяўчынка часта звяртаецца да Бога, гэта не пафасныя малітвы, просьбы, звароты — хутчэй размова з выдуманым сябрам. Лірычная гераіня пазбаўленая ілюзій: з усім трэба змагацца самой. Але гэта разуменне не пазбаўляе дзіцячага дзявочага жадання паплакацца на суровы і несправядлівы свет.

Такая «дзіцячасць» вершаў падкупляе, бо робіць іх сапраўднымі, шчырымі, вызваляе ад дарослай павучальнасці, крывадушнасці, штучнасці. Чытаючы творы Тані Светашовай, поўныя болю, мы не з'яўляемся гледачамі ў нейкім прыватным тэатры пакут, у які аўтар запрашае, каб напаказ пратрубіць пра самае патаемнае, пакалупаца ва ўласных траўмах. Свет Светашовай растулены. Усе ўнутраныя перажыванні ў яе вершах — хутчэй вынік усведамлення сябе часткай гэтага няшчаснага свету.

*совсем онемел —*
*как когда-то давно-давно*
*смотришь в пол и кусаешь мел*
*и тебе говорят: не грызи*
*и тебе говорят: проглотил язык?*
*а ты не чувствуешь ног*
*и время как студень и без толку ждать звонка*
*ты гулок и пуст и треснут, без языка...*

Нельга судзіць кнігу па вокладцы, а паэта па першай кнізе. Дэбют Тані Светашовай атрымаўся дастаткова ўдалым. Застаецца спадзявацца, што ў новых вершах паэтэсы будзе больш пазітыву, светлых пачуццяў і — яе самой.

**Іна НІКІЦІНА**

# Бестселеры ад «Беларусі»

## Найноўшыя здабыткі найстарэйшага выдавецтва

**Яркія фотаальбомы і багата ілюстраваныя навукова-папулярныя выданні «Беларусі» можна ўбачыць на паліцах бібліятэк і сталічных кнігарняў, у сувенірных лаўках музеяў і ў гандлёвым павільёне аэрапорта «Мінск-2». Кнігі, прысвечаныя беларускай культуры, гісторыі і прыродзе, — добры падарунак як замежным сябрам, так і калегам ды сваякам, якія жывуць на хвалі беларушчыны.**
**Прадукцыя выдавецтва вылучаецца якаснай паліграфіяй і выдатнымі ілюстрацыямі. «Беларусь» штогод атрымлівае новыя ўзнагароды на Нацыянальным конкурсе «Мастацтва кнігі», а ў 2014 годзе было адзіным выдавецтвам, якое змяшчала на кніжнай прадукцыі лагатып Чэмпіянату свету па хакеі.**
**Найстарэйшае выдавецтва краіны адзначыла 95-гадовы юбілей.**

### З ВУЛІЦЫ САВЕЦКАЙ

Дзяржаўнае выдавецтва Беларусі, ад якога вядзе радавод сучасная «Беларусь», цягам дзесяцігоддзяў змяніла шмат назваў і спазнала нямала пераўтварэнняў. Паводле гісторыка А. Гужалоўскага, менавіта тут доўгі час канцэнтравалася ўся літаратурна-выдавецкая дзейнасць, а таксама распаўсюджванне друкаванай прадукцыі.

Як падказвае «Спадарожнік па Менску», выдадзены ў 1930 годзе, Беларускае дзяржаўнае выдавецтва месцілася на вуліцы Савецкай, дом 63. Будынак знаходзіўся насупраць сённяшняга ГУМа, але да нашага часу не захаваўся. А ў 1930-я ў выдавецтва можна было трапіць на тэматычную экскурсію «Як робіцца кніга» і да таго ж зазірнуць у Палац працы на пляцы Волі, дзе знаходзілася друкарня. Праўда, рабочая атмасфера ў сярэдзіне 1930-х гг. была зусім не святочнай: пільная цэнзура, звальненні, рэпрэсіі, якія тычыліся як беларускіх аўтараў, так і супрацоўнікаў установы.

У гады Вялікай Айчыннай вайны выдавецтва пад назвай «Савецкая Беларусь» працавала ў Маскве, дзе выпускала масавымі тыражамі выданні, прысвечаныя партызанскай барацьбе і подзвігам воінаў-беларусаў. У 1963 годзе выдавецтва атрымала назву «Беларусь». На аснове яго структурных падраздзяленняў былі створаны выдавецтвы «Народная асвета», «Ураджай», «Мастацкая літаратура».




*Фота Кастуся Дробава.*

*Сяргей Пешын распавядае пра навінкі «Беларусі».*

### ПОЛЕ ДЗЕЙНАСЦІ

Сёння выдавецтва «Беларусь» узначальвае Сяргей Пешын. Пасля заканчэння Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў Сяргей Уладзіміравіч стаў супрацоўнікам выдавецтва «Беларуская энцыклапедыя імя Петруся Броўкі», дзе пісаў і рэдагаваў артыкулы па беларускім мастацтве для 18-томнай «Беларускай энцыклапедыі». У выдавецтве «Беларусь» Сяргей Пешын пачаў працаваць у 2002 годзе.

«Поле дзейнасці для загадчыка рэдакцыі па выданні фотаальбомаў і літаратуры па выяўленчым мастацтве было надзвычай шырокае, — згадвае Сяргей Уладзіміравіч. — Кнігі гэтай тэматыкі выходзілі рэдка, яшчэ блізкім быў савецкі час, калі кніга з'яўлялася дэфіцытам і трэба было здаваць па 20 кг макулатуры, каб атрымаць талончык — дазвол на куплю кнігі».

Сяргей Пешын згадвае самыя запамінальныя кнігі беларускіх выдавецтваў часоў сваёй маладосці. Царскім падарункам для многіх беларусаў быў васьмітомны збор твораў Уладзіміра Караткевіча, выключнай падзеяй стала выданне шасцітомнай «Гісторыі беларускага мастацтва» ў шыкоўных сініх супервокладках. Каб набыць кнігу, трэба было запісацца ў чаргу, але сабраць усе тамы атрымлівалася толькі праз букіністычныя крамы. Новыя выданні імгненна знаходзілі пакупнікоў!

На думку Сяргея Пешына, цягам апошніх дзесяцігоддзяў беларускія выдавецтвы прывучылі чытача, што кніга — гэта вельмі даступны тавар — на любую тэму і на любы густ.

Цяжка паверыць, што між часам кніжнага дэфіцыту і эрай тысячатомных электронных бібліятэк — адлегласць усяго ў некалькі дзесяцігоддзяў. Але супрацоўнікі выдавецтва не спяшаюцца казаць пра незапатрабаванасць друкаванай кнігі. Падарункавыя фотаальбомы, выданні для турыстаў заўсёды знойдуць пакупніка, бо яркая, прыгожая кніга — выдатны напамін пра вандроўку ці ўрачыстую падзею.

### ТЭМЫ ДНЯ

Супрацоўнікі аддзела маркетынгу робяць прадукцыю выдавецтва максімальна дасяжнай для замежных гасцей. Кнігі «Беларусі» прадстаўлены ў гандлёвых кропках папулярных турыстычных маршрутаў — у Дудутках і Строчыцах, Міры і Нясвіжы, Брэсцкай крэпасці і Белавежскай пушчы. Выдавецтва мае шмат стратэгічных партнёраў, у тым ліку некалькі кампаній, якія рэалізуюць кніжную прадукцыю на расійскім рынку.

Лепшыя выданні штогод экспануюцца на кніжных выстаўках, кірмашах, на міжнародных форумах розных краін свету. Гэта дазваляе не толькі годна прэзентаваць Беларусь, але і прадставіць арыгінальныя выдавецкія ідэі. Так, у 2015 годзе пабачыла свет кніга супрацоўніка Бярэзінскага біясфернага запаведніка Ігара Бышнёва «Жывёльны свет Беларусі ад "А" да "Я"» — і ёсць верагоднасць, што такая ж энцыклапедыя з шыкоўнымі фотаздымкамі будзе неўзабаве падрыхтавана ў Азербайджане.

# На розных мовах

**У 1935 годзе толькі 6 са 120 кніжак Дзяржаўнага выдавецтва БССР былі рускамоўнымі. Сёння нават кнігі, прысвечаныя беларускай культуры і гісторыі, часта выдаюцца на рускай мове. Было б прыемна, каб кожная кніга пра Беларусь мела беларускамоўную версію, але… Сітуацыю тлумачыць маркетолаг Анжэла Садоўская.**

«Выбар мовы, на якой выходзіць кніга, вызначаецца шэрагам фактараў. Першы з іх — гэта мэтавая аўдыторыя. Калі кніга ў значнай ступені разлічана на замежнікаў, то абавязковай з'яўляецца наяўнасць рускай ці англійскай мовы. Супрацоўнікі крамы «Замкавага комплексу "Мір"» часта адзначаюць, што пэўная кніга прываблівае турыстаў, але калі яна выдадзена толькі на беларускай мове, гэта спыняе пакупніка.

Кнігі для айчыннага чытача выдаюцца па-беларуску альбо па-руску ў залежнасці ад сітуацыі на кніжным рынку. Калі кніга на блізкую тэматыку нядаўна выйшла на беларускай мове, верагодна, што наступная пабачыць свет па-руску: людзі, якія пераважна чытаюць па-руску, могуць атрымаць больш зручнае для іх выданне. Да таго ж, аддзел маркетынгу прыслухоўваецца да заўваг і прапаноў супрацоўнікаў бібліятэчнай і гандлёвай сістэм, якія непасрэдна працуюць з чытачамі. Калегі не толькі дапамагаюць фарміраваць заказ, але і ўплываюць на выбар мовы».

Выданне кнігі ў двух варыянтах — на беларускай і рускай мове — эканамічна немэтазгоднае. Лепш даваць паралельны тэкст на розных мовах. Разам з тым Сяргей Пешын згадвае некалькі выпадкаў, калі адна кніга адначасова выходзіла на некалькіх мовах. Так, у 2009 годзе пабачыў свет фотаальбом «Белавежская дзіва»: адно выданне з тэкстамі на беларускай і англійскай мовах, другое — на рускай і англійскай. Яшчэ раней на розных мовах (беларускай, рускай, англійскай, нямецкай, французскай) быў выдадзены невялікі прэзентацыйны буклет «Беларусь». Кнігі на рускай і беларускай мовах ішлі абсалютна роўна і скончыліся адначасова, што сведчыць пра рэальную запатрабаванасць беларускамоўных выданняў.

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# Паспяхова!

**Лепшыя кнігі выдавецтва «Беларусь» вартыя асобнай згадкі. А з новымі выданнямі можна пазнаёміцца ў кніжнай краме «Далеч» альбо на прэзентацыях у 10-й мінскай бібліятэцы.**

**«Беларуская нацыянальная кухня», А. Вашчанка**

«Апетытныя» ілюстрацыі, унікальныя рэцэпты на беларускай, рускай і англійскай мовах, цікавы расповед пра нашы галоўныя стравы, кухарскую справу і сялянскі лад жыцця… Аляксандр Вашчанка ладзіць кулінарную вандроўку разам з этнографам Мікалаем Нікіфароўскім, які больш за стагоддзе таму напісаў «Очерки простонародного житья-бытья в Витебской Белоруссии...».

Некаторыя стравы нашых продкаў (кшталту смажанага мяса бабра пад журавінавым сосам з дранікамі) могуць падацца сучаснаму чытачу выключнай экзотыкай. Але большасць прапанаваных рэцэптаў прыдадуцца нават паспешлівым гарадскім гаспадыням. Бо прыгатаваць кугель з гароднiны альбо цымес з морквы ды яблыкаў можна за паўгадзіны, а потым здзівіць сям'ю ці сяброў адмысловай назвай стравы і новай гісторыяй з беларускай мінуўшчыны.

Кніга арыентавана як на ўнутраны, так і на знешні рынак і разышлася за некалькі месяцаў.

**«Гісторыя сусветнага мастацтва», Б. Лазука**

На сёння выдадзена тры тамы, першы з якіх — Гісторыя сусветнага мастацтва ад старажытных часоў па XVI стагоддзе — пабачыў свет у 2010 годзе. Адметнасць праекта — увага як да сусветнага, так і да беларускага мастацтва, якому прысвечана не менш за чвэрць кожнай кнігі.

«Звычайна пра беларускае і пра сусветнае мастацтва пісалі асобна, таму людзям складана было стыкаваць гэтыя з'явы, — зазначае Сяргей Пешын. — Калі ж Барыс Лазука разглядзеў беларускае мастацтва ў кантэксце сусветнай культуры, гэта выклікала захапленне чытачоў і дапамагло лепш зразумець гісторыю айчыннага мастацтва».

Дзякуючы якасным ілюстрацыям беларускія архітэктурныя помнікі і работы айчынных мастакоў апынаюцца не менш прывабнымі, чым сусветна вядомыя шэдэўры!

**Серыя «Славутыя мастакі Беларусі»**

Выдавецтва «Беларусь» разам з Нацыянальным мастацкім музеем ужо паспела распавесці пра творчасць васямнаццаці мастакоў, між якімі Іван Хруцкі, Язэп Драздовіч, Арлен Кашкурэвіч. Выданні маюць зручны фармат, змяшчаюць біяграфічны нарыс і рэпрадукцыі работ.

Новая кніга серыі знаёміць з асобай Фердынанда Рушчыца. Нягледзячы на тое, што ў Беларусі ёсць толькі адна яго карціна, творчасць мастака прадстаўлена дастакова поўна дзякуючы музеям Расіі, Польшчы і Літвы.

**Серыя «Беларуская гісторыя»**

Кожнае выданне прысвечана асобнай старонцы мінулага.

Лада Клімуць знаёміць з ідэалогіяй сарматызму, адлюстраванай у культуры Рэчы Паспалітай, Анастасія Скеп'ян распавядае пра князёў Алелькавічаў — адзін з самых славутых родаў у гісторыі Беларусі XIV — XVI стагоддзяў.

Кніга Вольгі Корсак «Таямніца беларускіх абярэгаў» вучыць глядзець на народную магію вачыма дасведчанага чалавека XXI стагоддзя — сістэматызаваць, размяжоўваць паводле аб'екта і суб'екта абярэга… Разам з тым апісанні рытуалаў і тэксты замоў нагадваюць пра варожыя і добрыя сілы, якія ўплывалі на жыццё нашых продкаў, і падаецца зусім нямарным умець правільна засцерагчыся ад небяспекі ці папрасіць спрыяння ў святых і бостваў.

Афармленне выданняў прыкметна адрозніваецца ад звычайнага выгляду навуковых манаграфій, таму ўражанні ад кніг застаюцца больш яркімі.

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

На паліцы

# «Дзе тая рака?»

**Новы твор Віктара Арцем'ева «Пісьменнікі і кнігі», які пабачыў свет напрыканцы мінулага года, стаў своеасаблівым летапісам літаратурнага жыцця Магілёўшчыны.**

Аўтар ужо добра вядомы чытачу, з-пад яго пяра выйшлі кнігі «Радзішанскі летапіс вайны», «Выгнаннікі», «Вайна на свае вочы», «Франтавыя дарогі палкоўніка Асмалоўскага», «Вянок Аляксею Пысіну», шматлікія нататкі, эсэ, успаміны, прысвечаныя літаратарам-землякам і вядомым беларускім пісьменнікам Аляксею Пысіну, Янку Брылю, Ігару Шклярэўскаму, Івану Шамякіну і многім іншым.

Праз асабісты жыццяпіс Віктар Арцем'еў паказвае лёс свайго пакалення з дзяцінства і юнацкіх гадоў да сталага ўзросту. Ілюструе яркія моманты жыцця як звычайных людзей, так і літаратараў Беларусі, раскрывае гістарычны лёс усёй краіны. Аўтар падводзіць вынікі шматгадовай працы і называе сваё выданне «кнігай жыцця». Даследчыка заўсёды вабіла жывая сялянская гаворка, характары вяскоўцаў. Калі стаў школьнікам, гарнуўся туды, дзе гутарылі мудрыя дзяды, запамінаў паданні, легенды, здарэнні. Потым гэтая крынічка жывіла пры стварэнні кніжак краязнаўчых апавяданняў «Чарэйцаў Круг», «Радзішына», «Цячэ рэчка Бася», «Слоўцы-адмыслоўцы», «Шчодрасць душы».

Асноўнае месца ў кнізе займаюць разважанні пра Аляксея Пысіна, якога аўтар добра ведаў і з кім сябраваў. Шмат гадоў Віктар Іванавіч з любоўю і ўпартасцю храніста-дакументаліста збіраў і занатоўваў эпізоды жыцця і творчасці Аляксея Пысіна. У выніку атрымалася грунтоўнае даследаванне «Вянок Аляксею Пысіну», пранізанае глыбокай павагай і ўдзячнасцю да свайго настаўніка.

Не менш цікава чытаюцца нататкі Віктара Арцем'ева пра іншых пісьменнікаў і паэтаў — ураджэнцаў Магілёўскага краю. Імёны многіх з іх, у тым ліку маладых латаратараў з трагічным лёсам ці тых, хто пайшоў ад нас заўчасна, ён вяртае шырокаму колу чытачоў: Яўген Крупенька, Аляксандр Мельнікаў, Анатоль Сербантовіч, Алесь Пісьмянкоў...

З усімі, пра каго піша аўтар, ён быў альбо добра знаёмы, альбо вёў сяброўскую перапіску, альбо мае экзэмпляры кніг з душэўнымі аўтографамі. Таму не здзіўляе вялікая колькасць змешчаных у кнізе малавядомых фактаў пра пісьменнікаў. Прывядзём некаторыя з іх.




**Ігар Шклярэўскі**, родам з Бялыніч, грашовую ўзнагароду лаўрэата Дзяржаўнай прэміі СССР аддаў на пасадку лесу па двух берагах Прыпяці. На левым, беларускім, і правым, украінскім. Паэт лічыў: «Мы ў такім даўгу перад прыродай, што адным дрэвам, як кажуць у народзе, ужо не адкупіцца». Ён захацеў, каб яго дрэвы раслі на плошчы больш за дзвесце гектараў. У адным інтэрв'ю ў паэта спыталі яго думку наконт таго, што пісьменнікаў часта папракаюць у некампетэнтнасці, калі яны прадказваюць экалагічныя беды. І ён адказаў: «Кампетэнтнасцю любоў і сумленне не заменіш. Я ўжо пахаваў чатыры любімыя ракі. У дзяцінстве я і брат пілі прама з Дняпра, чэрпалі далоняй, шапкай. Мы не ведалі, што мы апошнія людзі, што п'юць прама з рэчкі. А цяпер, скажыце, дзе тая рака, з якой можна напіцца?»

**Яўген Крупенька,** родам з в. Саськаўка Шклоўскага раёна, насуперак спадзяванням «дабрадзеяў» стаў выбітным лірыкам, напісаў шчымлівыя зборнікі, вянок санетаў. Пераклаў на беларускую мову «Слова аб палку Ігаравым». Але пераклад пабачыў свет толькі пасля смерці паэта — у 1994 годзе.

Паэт **Анатоль Сербантовіч** (в. Ордаць Шклоўскага раёна) па характары быў яршыстым. Аднойчы прылюдна вельмі крытычна адазваўся пра захвалены зборнік вершаў Петруся Броўкі, чым закрыў сабе шлях пры жыцці на паэтычны Алімп. У чатырохтомнай «Гісторыі беларускай літаратуры ХХ стагоддзя» толькі некалькі згадак пра асобу паэта Сербантовіча.

У адказ на параду знаёмага літоўскага паэта ехаць, адышоўшы ад службовай работы, на дачу і там сталярыць **Янка Брыль** распавёў: «Я адыходжу не ў сталярку, а зноў ды зноў у добрую кнігу, у працу літаратурную, якая ў мяне не які-небудзь адыходны промысел ці славутае хобі, але адзіная справа жыцця».

**Мікалай БАРЫСЕНКА,**
**старшыня секцыі гісторыі і краязнаўства Магілёўскага абласнога аддзялення СПБ.**

Маладзічок

# Выхаваць лідараў

## Праз альтэрнатыву таму, што ёсць у віртуальным свеце

Пісьменніца Наталля Ігнаценка лічыць, што сапраўднае лідарства дзяцей выхоўваецца ў сем'ях. І дапамагае гэтаму кнігамі. «Як два браты спартсменамі сталі», «Як два браты этыкет вывучалі», зборнік вершаў «Аквамарын» — гэта тыя кнігі Наталлі Ігнаценка, якія выйшлі ў Выдавецкім доме «Звязда» і ўжо вядомыя чытачам. Нядаўна выйшла ў свет новая кніга — «Зімовыя прыгоды двух братоў». Аўтарка прадставіла яе навучэнцам сталічнай гімназіі № 1, з'ездзіла ў некаторыя райцэнтры з адмысловай прэзентацыяй: у яе скрынках «жывуць» казачныя сюжэты — зробленыя ёю самой з дапамогай цацак, пацерак, блёстак.

— Я сама ўвасабляю казку, — адзначае Наталля Ігнаценка. — Мне хочацца данесці яе так, як я бачу. Усе прэзентацыі ладжу бескарыслівa. Мяне часта запытваюцца, чаму я гэта раблю. Я адказваю, што, калі мы не будзем займаць нашых дзяцей, прапаноўваць ім альтэрнатыву таму, што ёсць у віртуальным сеціве, іх будуць прыцягваць розныя сумніўныя з'явы.

Каб задзейнічаць у сваім дзействе аўдыторыю, пісьменніца ладзіла адмысловыя конкурсы. Напрыклад, запытвалася ў самых маленькіх чытачоў, якое надвор'е было ў казцы, якія птушкі, калі з'явілася Снежная Каралева. За ўсе адказы Наталля Ігнаценка ўручала бліскучыя сняжынкі. Сачыла, каб не засталося ніводнага дзіцяці з пустымі рукамі. А самым актыўным як узнагароду падарыла свае кніжкі з аўтографамі.



Фота Кастуся Дробава.

У яе казцы паказаны прыклад цёплых стасункаў двух родных людзей. Наталля Ігнаценка наўмысна не давала імёнаў героям — каб усе чытачы маглі атаясамліваць сябе з імі, разам перажываць тыя ж прыгоды. Казкі Наталлі Ігнаценка вучаць дабру і сяброўству, працавітасці і спагадзе. Дарэчы, вось-вось выйдзе і яшчэ адна кніга аўтаркі — «Казкі на ноч».

**Ніна ШЧАРБАЧЭВІЧ**

# Казкі з глыбокай філасофіяй

У Выдавецкім доме «Звязда» выйшла трэцяя кніга ўжо знаёмай маленькім чытачам серыі «Казачны куфэрак» «Як мядзведзь пчаляром стаў», якую ўклала рэдактар аддзела выдання дзіцячай літаратуры Вольга Аляксеева. У гэтай серыі (і новая кніга не стала выключэннем) сабраныя лепшыя творы сучаснай айчыннай дзіцячай літаратуры.




«Казачны куфэрак» здзівіў сваёй філасафічнасцю. На старонках кнігі «Як мядзведзь пчаляром стаў» можна знайсці развагі Алены Масла пра касмічныя прасторы ў творы «Калючык і космас» і нататкі пра жыццё рэчаў у казцы «Аўтобус, Ліфт і Насценны Гадзіннік» Георгія Марчука. Казка Алены Стэльмах «Дуб і крумкач» вылучаецца дасканаласцю мовы, сімвалічнасцю вобразаў. Кацярына Хадасевіч-Лісавая з незвычайным «Падарожжам у Кветкавую краіну», Вольга Савасцюк з дзвюма вершаванымі казкамі «Служка-воўк» і «Рыжыкуцякач» таксама не пакінуць абыякавымі.

Цікава будзе прачытаць і працяг вядомых «Прыгод Шубуршуна» Алеся Карлюкевіча. У новым зборніку малечу чакаюць неверагодныя прыгоды ў мурашніку. А Таццяна Мушынская прапануе выправіцца ў космас разам з Максімам і яго новымі іншапланетнымі сябрамі ў казцы «Калі прыляцелі іншапланецяне». За права быць гаспадаром на двары паспрачаюцца Кацяня, Шчанюк, Курыца і Дажджавы Чарвяк у творы Алеся Бадака «Хто гаспадар?». Тамара Бунта ў казцы «Добрае сэрца» раскажа незвычайную гісторыю пра набыццё цацачным сабачкам Сінькам самага сапраўднага сэрца.

Нельга пакінуць без увагі добрыя і светлыя вершаваныя казкі Генадзя Аўласенкі, Кастуся Жука, Міхася Пазнякова, Міколы Чарняўскага, Уладзіміра Карызны — арыгінальныя сюжэты, дасціпныя назіранні і яркія персанажы абуджаюць фантазію.

**Аляксей ЖАБІНСКІ**

Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.

# Каралева фуэтэ



**— З чаго ўзнікае любоў да ролі і да балета наогул? Без любові нічога ж не станцуеш…**

— Так, але ў кожнага яна праяўляецца асаблівым чынам. Мы выпускаліся адначасова — Марына Вежнавец, Вольга Гайко і я. І ўвесь час сябруем, дапамагаем адна адной. Але мы па-рознаму выбудоўвалі свае адносіны да балета і да тэатра, кожная мела свой шлях у мастацтве. Я ў вучылішчы моцна балетам не хварэла. Былі спектаклі, пра якія я ў думках марыла: вось калі б станцаваць «Шчаўкунка», «Жызэль». Але ж прыйшла ў трупу артысткай кардэбалету. Пасля вучылішча адразу выйшла замуж і нарадзіла дзіця. Для мяне балет быў працай. Гады праз 4, як я папрацавала ў кардэбалеце тэатра, мяне заўважылі Юрый Траян і Людміла Бржазоўская, сталі даваць сольныя партыі. Тады ў мяне з'явіўся інтарэс, жаданне шмат працаваць. Суткамі знаходзілася ў тэатры, сыходзіць адтуль не хацелася. З раніцы тэатральныя рэпетыцыі, днём сама ішла ў залу і працавала. Вечарам зноў рэпетыцыі, спектакль.

Мая першая сольная партыя, але яшчэ не вядучая, — фея ў «Прыгажуні, якая спіць». Калі я выйшла на сцэну, у мяне трэсліся рукі і ногі, ад хвалявання заклала вушы, я нават не чула аркестр. Была думка — дажыць да канца спектакля, адчувала адказнасць. Але калі паступова прывыкла, то зразумела, што ніхто мяне не пакарае, калі нешта не атрымліваецца. А потым, калі з'яўляецца любоў да сцэны, да танца, да ролю, узнікае зусім іншы стан — становішся фанатам.

## Адажыа (павольна)

**— Вы сталі салісткай, калі ўжо мелі дзіця. Прыйшлося мяняць жыццё?**

— Балет стаў на першае месца. Я не была фанатычнай мамай, гатовай жыць толькі дзіцем. Мне вельмі дапамагалі бацькі. У мяне не было жылля, я жыла ў інтэрнаце, не ў суперкамфортным па ўмовах. Таму дзіця жыло з бацькамі, а я — і там, і тут. Па магчымасці — з сынам, калі шмат працы — у Мінску. Сямейнае жыццё не склалася. І калі надарылася магчымасць заняцца кар'ерай, я не адмовілася. Мне жыццё дало шанец, я яго выкарыстала. Я не шкадую. Майму сыну зараз 16 гадоў, вырас прыгожы хлопец.

**— Ці дапамагала роля маці ў працы над ролямі ў балеце?**

— Падчас першых сольных выхадаў я яшчэ не разумела, што адбываецца. Таму што былі такія моманты і думкі, каб правільна ўсё зрабіць, каб цябе ацанілі, каб у цябе паверылі. А потым, калі растанцоўваешся, улюбляешся ў свае спектаклі, у ролі. Ёсць патрэба выходзіць на сцэну і распавядаць гісторыю, а не проста зрабіць 32 фуэтэ. Я зараз памятаю, што танцавала Машу ў «Шчаўкунку». У пастаноўцы Елізар'ева ў першым адзяленні Маша — дзяўчынка. І ён мне заўсёды казаў: «Пакольві ў цябе ёсць дзіця, то ты можаш зразумець і перадаць дзіцячую гульню, ты гэта бачыла і ведаеш, што ў дзіцяці настрой мяняецца вельмі хутка». Маша ў першым акце то плача, то смяецца і гуляе. Ён мне казаў, што я гэта добра перадаю.

**— І таму вы вырашылі не адмаўляцца і далей ад кар'еры маці, хоць ужо складвалася кар'ера ў тэатры?**

— Я веру ў тое, што дзеці прыходзяць у наш свет ад Бога. Ведаю жанчын, якім вельмі складана даюцца дзеці. А я з тых, каму працяй нарадзіць, мне страшна забіць дзіця. Я не магу сказаць, што мы з мужам наўмысна планавалі, калі чакаць дзіця, выгадвалі, каб быў перапынак у тэатры, гастролях і гэтак далей. Так здарылася, і я нарадзіла другое дзіця — дачушку Ксюшу. Адразу аднавілася і вярнулася ў тэатр. У балерын такая прафесія, што не асабліва ёсць час сядзець у дэкрэтных адпачынках. У нас дэкрэтны адпачынак не ўваходзіць у стаж. Ёсць бальнічны 1,5 месяца пасля родаў, далей, калі ты не выходзіш, прыйдзецца адпрацоўваць, каб атрымаць пенсію. Чым больш гадоў, тым будзе складаней гэта зрабіць.



Фота Тэйда Санкіла.

Ірына Яромкіна з дачушкай Ксюшай.

## Амбуатэ (следам)

**— Колькі прыйшлося працаваць, каб вярнуцца ў тэатр пасля нараджэння дзіцяці, колькі займацца, каб цела прыйшло ў форму?**

— Першы раз дзіця для мяне было нейкім цудам. Другі раз з вялікім перапынкам — амаль тое ж самае. Але з трэцім мне здавалася, што ўсё арганічна задумана прыродай. Мой арганізм вельмі лёгка перанёс цяжарнасць і роды. Калі пачаліся схваткі, мне трэба было дзяцей завесці да мамы за горад. Арганізм прывучаны рэагаваў. Калі я прыехала ў радзільню, нікога з урачоў не было. Я забегла ў прыёмны пакой, а Каця такая хуткая, што нікога не захацела чакаць. Я нарадзіла сама, узяла яе на рукі, сядзела, як была: у ботах, куртачцы, чакала, пакуль прыйдуць урачы. Яны даволі хутка пры-беглі, зрабілі ўсё неабходнае. І на трэці дзень мы з дачушкай пайшлі дадому. На той момант муж быў на гастролях, я прыехала ў радзільню адна, і адтуль паехала сама, пасадзіла немаўля ў дзіцячае аўтакрэсла…

**— Як у тэатры ўспрымалі навіны пра чаканне дзяцей ад адной з салістак?**

— З другім дзіцем я мякка рыхтавала ўсіх. Ужо ведала, што цяжарная, адчувала, што хачу, мне было 32 гадоў. Усе ўспрынялі з радасцю, віншавалі. Памятаю, што ўжо цяжарная ездзіла ў Кітай на гастролі, выходзіла ў ролі Каралевы. А потым хутка аднавілася. А калі збіралася нараджаць трэцяе дзіця, усе былі трошкі ў шоку. Да пяці месяцаў я не гаварыла, што цяжарная, але танцавала сольныя вядучыя партыі. Я была пад пастаянным кантролем урача. Калі б мне сказалі, што небяспечна, я адразу спыніла б працу. Канечне, змены адчувала ў целе: звязкі становяцца больш мяккія, эластычныя, скокаць цяжэй. Але гэтага ніхто не заўважаў. Я зразумела, што хопіць танцаваць, таму што касцюмы не зашпільваліся. 21 лістапада 2014 года ў мяне быў апошні выхад на сцэну, а 20 сакавіка нарадзілася Каця.

**— І атрымлівалася, што ўжо праз месяц-другі вы зноў выйшлі на сцэну?**

— Так, 4-5 мая я ўжо выходзіла ў спектаклі «Лебядзінае возера». На жаль, не таму, што мне так хацелася, наадварот, я думала, што пасяджу з дзіцем, буду натальляцца мацярынствам. Але так склаліся сямейныя абставіны, што мне трэба было сябе ратаваць. Быў моцны псіхалагічны стрэс, не хацелася нічога. Я выцягнула сябе працай. Мае думкі вярнуліся да дзяцей, я зразумела, што мне ёсць дзеля каго жыць, ёсць дзеля чаго працаваць. Дзяцей гадаваць цяпер складана — і фізічна, і матэрыяльна. Але я разважаю так: калі Бог даў дзяцей, значыць, дапаможа іх падняць і справіцца з працай.

**— У вас як у шматдзетнай мамы ёсць нейкія паслабленні?**

— Не. Ведаю, што дзяржава дазваляе браць дадатковы вольны дзень, але я ніводнага разу ім не скарысталася. Не было патрэбы. Праца не павінна цярпець. І дзеці не павінны цярпець. Я стала больш рацыянальна размяркоўваць свае сілы. Цяпер для мяне тэатр стаў больш працай. А яшчэ нядаўна быў жыццём.

## Па даксён (развіццё сюжэта)

**— Жыццё артыстаў балета пакідае час на іншыя справы?**

— Гэта залежыць толькі ад чалавека. Калі артысту трэба час на нейкае хобі ці справу, то яго можна знайсці. Напрыклад, мы з Ксюшкай дзе толькі не былі акрамя працы: ходзім на дзіцячыя пляцоўкі, дзе горкі ці качэлькі пры вялікіх цэнтрах, у цырк, на каток. Хадзілі на спектакль Марыны Вежнавец «Шчаўкунок». У нас няма такога, што мы сядзім дома. Часу ў мяне на гэта хапае. Сіл, бывае, не…

Калі толькі пачынаеш танцаваць, то сапраўды шмат часу прысвячаеш балету: развучваеш спектаклі, іх трэба ўвесь час рэпеціраваць. Калі я валодаю ўсім рэпертуарам, мне не трэба рыхтаваць прэм'еры. Я рэпецірую перад спектаклем некалькі дзён па некалькі гадзін, а далей у мяне вольны час. Калі б мне трэба было рыхтаваць яшчэ нейкі спектакль, мне б выпісалі яшчэ рэпетыцыі. Трэба ведаць, чаго хочаш.

**— А як наконт рэгулярных заняткаў ля станка?**

— Трэба абавязкова трэніраваць штодня мышцы, каб яны былі ў тонусе. У нас у 10 гадзін штодня урок класічнага танца. Усе абавязкова прыходзяць. Ёсць такі момант, што пасля спектакля нам дазваляецца не прыходзіць на класіку, каб аднавіцца. Урок класічнага танца — гэта аснова, тое, з чаго ўсё пачынаецца — і ў вучылішчы, і ў тэатры, і ў любога артыста. Ёсць мужчынскі ўрок, ёсць жаночы. У мужчын цяжэй, у іх скачкоў болей, тэхнікі. А ў жанчын ужо больш павольных рухаў — каб спінку прагнуць, ножкі высока патрымаць. Але часам жанчыны любяць ха-дзіць на мужчынскія ўрокі — там больш нагрузкі. Бывае, што ёсць перапынкі, калі няшмат спектакляў, тады адчуваеш, што хочаш сябе нагрузіць больш, ідзеш на мужчынкі ўрок. Урок класічнага танца нават лечыць. Калі нешта баліць ці бывае, што пасля спектакля ў мышцах моцнае напружанне, пазаймаўшыся на ўроку, мышцы разаграюцца, сыходзіць боль. Класіка лечыць не толькі ад фізічных, але і ад душэўных праблем. Людзі ж увесь час сябе нагружаюць, нешта шукаюць альбо фізічна, альбо розумам…

**— Калі чалавек стаў салістам — гэта нейкі статус. Салістак бывае некалькі. Ці ёсць канкурэнцыя ў тэатры?**

— Раней я лічыла, што здаровая канкурэнцыя — гэта добра. Таму што, калі ёсць канкурэнцыя, кожны чалавек імкнецца дабіцца нейкіх вынікаў, працаваць лепш. Потым я прыйшла да высновы, што канкурэнцыі здаровай не бывае ў прынцыпе. Нешта павінна быць у чалавека ўнутры, калі ён сам разумее, што трэба трымаць узровень і сачыць за сабой, не дапускаць сябе, свае думкі, учынкі да нейкіх подласцяў. Таму што ў жыцці ўсё вяртаецца, можа, не ад таго чалавека, а нейкім іншым чынам. У нас вельмі мудры кіраўнік Юрый Траян. Ён разумее, што партыю не можа танцаваць толькі адзін артыст. Павінны быць розныя склады, могуць быць розныя абставіны, павінен быць нехта, хто зможа замяніць цябе, няхай ён будзе трошкі горш. Канкурэнцыя — гэта добра, але толькі для таго, каб трымаць сябе ў форме. У нас няма такога, каб нехта тасёмкі падразаў, сыпаў пясок ці шкло ў пуанты. Калі чалавек гэта робіць, то ён ужо хворы. І калі ў душы чалавека думка пра канкурэнцыю, то ў ім жыве зайздрасць. Напэўна, павінны быць правільныя адносіны да сябе: мне трэба развівацца, спраўляцца з тэхнічнымі прыёмамі, працаваць лепш.



Сцэна з балета «Вітаўт».

**— Але прыходзіць момант, калі кожны артыст балета прымае для сябе рашэнне, ці танцаваць далей. Пасля 20 гадоў працы вы можаце выйсці на пенсію. Ці думалі, што пасля?**

— Што б я хацела рабіць, дык займацца з дзеткамі-інвалідамі. Цудоўна, калі б з'явілася магчымасць стварыць гуртох, школу ці пры школе ўрокі харэаграфіі, паспрабаваць паставіць дзяўчынак на пуанты, у пачкі іх апранаць, развіваць пластыку. Мне здаецца, творчасць, нават дотык да мастацтва можа надаваць сілы вытрываць жыццёвыя іспыты.

Ларыса ЦІМОШЫК

Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.

# Майстар дэталізацыі, ці Гісторыя буйным планам



Павел Татарнікаў.

## ЯК СТАЦЬ ВЯДОМЫМ?

Мастак, жывучы на ўскраіне Мінска, актыўна супрацоўнічае з замежнымі выдавецтвамі — Вялікабрытаніі, Кітая, ЗША, Японіі, Італіі, Расіі. Так што выжываць маладым, на яго думку, можна і ў роднай краіне — трэба толькі смялей сябе прасоўваць, удзельнічаць ва ўсіх магчымых конкурсах і выстаўках, рабіць так, каб цябе заўважылі, знаёміцца з калегамі і выдаўцамі з усяго свету. Потым будуць і заказы. Гэта галоўны пасыл юным творцам.

Павел Татарнікаў двойчы заваёўваў найвышэйшую еўрапейскую ўзнагароду сярод кніжных майстроў — «Залаты яблык» Міжнароднага біенале ілюстрацыі ў Браціславе. Ён з'яўляецца ўладальнікам і іншых прэстыжных сусветных і айчынных дыпломаў, медалёў, прэмій і прызоў. У тым ліку — «Залатое пяро Бялграда». Кнігі з яго работамі перакладзены на многія мовы. Адзін толькі «Кароль Артур» выйшаў амаль на ўсіх кантынентах. Дзяржаўная прэмія Беларусі ў галіне літаратуры, мастацтва, архітэктуры — таксама яго заслуга.

## ЗНАК ЛЁСУ

Папера і фарбы з дзяцінства былі ў вольным доступе, бо мама і тата — мастакі. Сям'я жыла ў прыватным доме, сцены якога ў пэўны момант пацярпелі лёгкую «мадэрнізацыю» з-за першых творчых парываў маленькага Паўла.

«Непазбежным было маё паступленне ў знакамітую школу-інтэрнат па музыцы і выяўленчым мастацтве імя Ахрэмчыка ў Мінску. А трапіў я туды... дзякуючы «экспедыцыі» аднаго з выкладчыкаў, што збіралі здольных дзяцей па ўсіх раёнах, гарадах і вёсках. Памятаю ўрок матэматыкі ў трэцім класе. Раптам дзверы адчыняюцца, з'яўляецца барадатая галава (як высветлілася потым, завуч) і «закідвае» нам нечаканае пытанне: «Дзеці, хто ў вас тут любіць маляваць?» Клас, не змаўляючыся, паказвае на мяне! Усё было вырашана лёсам яшчэ тады. Вельмі рана я стаў добра арыентавацца ў відах мастацтва, таму гадоў у дванаццаць ужо канчаткова вырашыў, што буду графікам. Гэта вельмі шчаслівы выпадак, калі чалавек загадзя ведае, чаго хоча ад жыцця...» — паведамляе Павел Татарнікаў.

## РАМАН З ГІСТОРЫЯЙ

Персанажы Паўла Татарнікава — моцныя духам, доблесныя, адважныя і сумленныя асобы, якія не баяцца перашкод лёсу. На яго карцінах часцей за ўсё можна сустрэць князёў, рыцараў і святароў, дзяржаўных дзеячаў, асветнікаў, першадрукароў, ваяводаў і будаўнікоў, воінаў і нават апосталаў... А яшчэ — шмат беларускіх святынь і сімвалаў, такіх як крыж Ефрасінні Полацкай ці Слуцкія паясы. Героі беларускіх народных казак таксама прысутнічаюць.

Калі іншыя школьнікі адварочвалі насы ад сумных, на іх погляд, падручнікаў па гісторыі, маленькі Павел ужо асвойваў навукова-папулярныя выданні і нават сам прыдумляў мапы — маляваў свае краіны і гарады, горы і рэкі. Зараз гісторыя — частка прафесіі. Яму, як графіку-ілюстратару, які імкнецца да гістарычнай дакументальнасці, неабходна шмат чытаць, каб разбірацца, напрыклад, якое адзенне насілі ў тую ці іншую эпоху, у якіх багоў верылі, з чаго выраблялі зброю ці будавалі дамы...

Працуючы над чарговай кнігай, ён старанна паглыбляецца ў эпоху, якую трэба адлюстраваць. Калі трэба — вывучыць нават усходнюю касмалогію разам з кітайскімі народнымі міфамі ці адправіцца ў адну з італьянскіх вёсачак да народа фрыулі, каб даведацца пра самыя старажытныя легенды...

«Аповесць мінулых гадоў», «Сем цудаў Беларусі», «Адвечны покліч Радзімы», «Перуновага племені дзеці», «Званы Нямігі» — ва ўсе гэтыя і многія іншыя кнігі ён уклаў душу і майстэрства. Хіба можна абвінаваціць яго ў тым, што зараз ілюстратар прымае ў асноўным замежныя заказы?

## БЕЛАРУСЬ НА ДАЛОНІ

Як выглядалі старажытныя беларускія замкі, храмы, палацы, мястэчкі і гарады часоў Вялікага Княства Літоўскага? Павел Татарнікаў разам з пісьменнікам Уладзімірам Арловым працуюць над кнігай для моладзі «Айчына. Маляўнічая гісторыя», якая павінна пабачыць свет у гэтым годзе. Мастацка-гістарычная рэканструкцыя мясцін і партрэтаў вядомых дзеячаў — тое, за што з вялікім энтузіязмам узяўся ілюстратар, ахапіўшы перыяд з IX па XVIII стагоддзі.



«Ярыла вачыма мастака».

Многія шэдэўры нашай архітэктуры можна ўбачыць у творах мастака ўжо зараз. У іх ліку — Полацкая Сафія, Мірскі, Крэўскі і Нясвіжскі замкі, Маламажэйкаўская, Сынкавіцкая і Каложская цэрквы... Усяго будзе каля 40 аб'ектаў. Па яго словах, гэты праект — больш даследчыцкая праца, чым мастацкая. Трэба кансультавацца з гісторыкамі, археолагамі, архітэктарамі, рэстаўратарамі. Вельмі шмат пытанняў узнікае, але ў гэтым і цікавасць, пэўны азарт.

«Часам я раблю рэтраспектывы: аб'ядноўваю на адной старонцы значныя аб'екты, якія адначасова ніколі не існавалі, каб адразу падкрэсліць асаблівасці пэўнага месца. Гэта выклікае шмат спрэчак у гісторыкаў. Што тычыцца партрэтаў, асабліва тых асоб, выгляд якіх дакладна не вядомы, то я малюю... сваіх сяброў, падобных на іх! А што рабіць, калі ў цябе ўсяго толькі невялікі кавалак тэксту-апісання характару ці знешнасці, літаральна пара абзацаў, і больш ніякіх звестак? Так што нядзіўна, калі ў князе Міндоўгу, напрыклад, вы пазнаеце якога-небудзь знакамітага сучаснага мастака...» — расказвае Павел Татарнікаў.

## МАГІЯ ДЭТАЛЯЎ

Мастак на сваіх палотнах выкарыстоўвае ўсю разнастайнасць планаў, нават кропку погляду з вышыні птушынага палёту, ствараючы эфект надзвычай шырокай панарамнасці. Вельмі любіць дэталізацыю. Пры гэтым каляровая палітра ніколі не выглядае задзірліва — нават калі на карціне прыгожая царэўна з падземнага царства, вялікіх памераў замак, акружаны густым лесам, або пачвара, што выклікае жах. Майстар надае ўвагу ўсяму: касцюмам герояў, упрыгожванням і прычоскам дам, баявой экіпіроўцы воінаў, архітэктуры будынкаў. Тым не менш ніякай камп'ютарнай графікі. Толькі графічныя тэхнікі, акварэль і звычайная папера.

Мастак, афармляючы кнігі, ніколі не дубліруе тое, пра што ідзе гаворка ў тэксце, — ён дапаўняе рэальнасць аўтара, ствараючы зборныя, закадзіраваныя вобразы, вытканыя з кульмінацыйных момантаў розных частак твора. «Я малюю так, каб мне самому спадабалася, калі б я быў тым хлопчыкам 12 гадоў», — падкрэслівае графік.



«Камянец, XIII стагоддзе».

«Існуе некалькі канцэпцый афармлення кнігі. Першая — звычайнае ўпрыгожванне. Ствараецца арыгінальная вокладка, на старонкі дабаўляюцца віньеткі і прыемны шрыфт. А вось калі з'яўляюцца ілюстрацыі... Можна ісці двума шляхамі: паўтарыць тое, што апісаў аўтар кнігі, ці дапоўніць яго словы, стварыць сваю вобразную сістэму, але не замінаць задумцы, не перашкаджаць тэксту. У гэтым выпадку ілюстраваць паэтычныя зборнікі — адна з самых складаных задач. Паэтычны вобраз стварае абсалютна розныя карцінкі ў свядомасці кожнага чалавека. Мастак не павінен навязвацца і перашкаджаць паэзіі», — дзеліцца думкамі Павел Татарнікаў.

Ёсць у мастака і працы, якія не адносяцца да кніг. Час ад часу ён піша на палатне, займаецца літаграфіяй. Спрабаваў нават іконы пісаць і выразаць скульптуры. «Калі людзі бачаць мае творы, не звязаныя з кнігай, кажуць: не, цябе тут не пазнаць!» — смяецца графік.

## «БЕЛАРУСКУЮ КНІГУ ТРЭБА АБАРАНЯЦЬ»

На думку Паўла Татарнікава, беларускамоўнай кнізе ў нашай краіне сёння цяжка вытрымліваць канкурэнцыю на свабодным рынку. Рашэнне праблемы — больш актыўная падтрымка і прасоўванне яе дзяржавай, прама скажам — абарона, спроба паставіць на ўзровень з рускімі выданнямі, як гэта было ў 1970 — 90-я гады.

«Паліграфічны сегмент з так званай элітарнай, а не масавай кнігай, дзе запатрабаваны добрыя мастакі-ілюстратары, развіваецца вельмі бурна ва ўсім свеце. А вось Беларусь выбіваецца з кантэксту, нягледзячы нават на тое, што школа кніжнай графікі ў нас магутная! Мне самому яна дапамагла стаць вядомым у Еўропе і іншых краінах, зрабіўшы мае творы канкурэнтаздольнымі і арыгінальнымі», — дзеліцца ілюстратар.

«Цікава, што яшчэ ў савецкія часы сітуацыя была абсалютна іншай, кніжная графіка перажывала свой росквіт. Зараз кнігі таксама выходзяць, але іх мала на долю насельніцтва. Лічу, што нельга было ліквідаваць паліграфічныя брэнды, такія, як, напрыклад, "Юнацтва" і "Полымя"», — дадае Павел Татарнікаў.

Традыцыі беларускага кнігадрукавання, без якога нельга ўявіць культурны фон на нашых землях, бяруць пачатак яшчэ з глыбінь XVI стагоддзя. Што адбываецца цяпер? Нашы выдавецтвы з іх невялікімі тыражамі, адносна паліграфічных «калег» з іншых краін, часам прайграюць у бітве за прыз глядацкіх сімпатый. А гэта значыць, што шматлікім маладым ілюстратарам, нават вельмі здольным, нялёгка знайсці сабе працу, і яны часта з'язджаюць за мяжу. Малавядомы факт: у 2003 годзе на прэстыжнай кніжнай выстаўцы ў Балоні было прадстаўлена шэсць беларускіх ілюстратараў сярод семідзесяці, адабраных з амаль дзесяцітысячнай грамады! Ці зможам мы затрымаць іх у роднай краіне?

Марыя ВОЙЦІК

# Фатаграфія ў Беларусі — ключ да самаідэнтыфікацыі

**Першы бурны ўсплёск беларускага фотамастацтва прыйшоўся на пасляваенны час ХХ стагоддзя, адзначыўшыся хваляй шматлікіх фотаклубаў, якія адкрываліся па ўсёй краіне, а другі — на 1980-я гады, час так званай перабудовы. З'явілася шмат новых імёнаў: Ігар Саўчанка, Віктар Сядых, Сяргей Плыткевіч, Міхаіл Гарус, Сяргей Кажамякін, Вадзім Качан... Што адбываецца цяпер? Летапіс фотамастацтва аднаўляе тэарэтык і практык у галіне фатаграфіі Уладзімір Парфянок, які працуе ў Нацыянальным цэнтры сучасных мастацтваў.**



*Фатограф Уладзімір Парфянок.*

### ФАТАГРАФІЧНЫ ПЕРАВАРОТ, АЛЬБО БУНТ ТВОРЧАСЦІ

«Час 80-х быў няўрымслівым і бурлівым, хацелася, каб фатаграфія не адшліфоўвала рэальнасць, а паказвала яе без прыхарошвання, шукала балючыя кропкі сучаснасці і распавядала пра іх. Маладыя аўтары, разам з якімі прыйшоў і я, былі гатовыя да рэформ састарэлай парадыгмы клубнай фатаграфіі. Мы здымалі тое, што хацелася здымаць, а не дзеля, скажам, штогадавай справаздачы фотаклуба ці нейкай буйной рэспубліканскай выстаўкі. Шукалі рэальную праблематыку ў паўсядзённым жыцці і спрабавалі яе асэнсаваць фатаграфічнымі сродкамі, а не проста зрабіць яе дакументальны запіс», — дзеліцца фатограф.

Першыя ягоныя праекты ў той час ужо мелі поспех: серыя «Фрагменты быцця» — фотазамалёўкі паўсядзённага жыцця Мінска, Калінінграда, Вільнюса, Рыгі, серыя «Персона нон-грата» пра нефармальную моладзь, якая вяла незалежны лад жыцця, не паддаючыся агульнапрынятым нормам...

Пасля года навучання ў фотаклубе «Мінск» ён разам з аднадумцамі вырашыў стварыць сваю незалежную творчую асацыяцыю «Правінцыя». Самая першая выстаўка «Пачатак» у 1988 годзе ў Доме кіно (былым Чырвоным касцёле) прадэманстравала новыя плыні ў маладой беларускай фатаграфіі. У 1989-м дэбютантамі зацікавіліся замежныя куратары. Пачаліся замежныя выстаўкі, паездкі за мяжу, публікацыі ў спецыялізаваных фотачасопісах, набыццё музеямі работ у свае калекцыі... Так званы момант прызнання.

У 1996 годзе дзякуючы Уладзіміру Парфянку з'явілася галерэя візуальных мастацтваў «*NOVA*», якая стала добрай пляцоўкай для правядзення фотавыставак, своеасаблівай творчай лабараторыяй, дзе можна было абмяркоўваць і рэалізоўваць крэатыўныя ідэі... Трынаццаць гадоў праіснавала галерэя — да таго часу, пакуль не прыпынілася яе дзейнасць з-за недарэчнага артыкула ў прэсе наконт фотавыстаўкі пра Тыбет…

У 2000-м Уладзімір Парфянок заснаваў беларускі вэбальманах «*Photoscope.by*», які спрабаваў аналізаваць падзеі фатаграфічнага жыцця Беларусі і замежжа. Пачынаючы з 2007 года выкладаў у прыватнай Школе фатаграфіі мінскага Цэнтра фатаграфіі. Сёння школа, на жаль, дзейнічае па вельмі спрошчанай праграме. І занадта дарагая арэнда памяшкання не спрыяе развіццю гэтага адукацыйнага праекта.

### ХТО, НАРЭШЦЕ, ПАЧУЕ ФОТАМАСТАКОЎ?

«Складана пазначыць шлях развіцця беларускага фотамастацтва, таму што ніхто яго гісторыяй грунтоўна не займаецца. У нас да гэтага часу няма акадэмічнага даследавання, якое расказала б пра вытокі і развіццё фатаграфіі ў краіне, адзінай аўтарытэтнай крыніцы інфармацыі. Прыходзіцца збіраць па крупіцах тое, што выходзіла асобнымі публікацыямі і артыкуламі ў розных друкаваных выданнях», — кажа Уладзімір Парфянок.

А хочаце анекдот? Самая вялікая калекцыя беларускай фатаграфіі, якая ўключае ў тым ліку вінтажныя здымкі, захоўваецца... у Санкт-Пецярбургу! Другая па велічыні — у Даніі.

«Сёння ў Беларусі навучыцца проста фатаграфаваць — не праблема. Шмат курсаў і школ самага рознага кшталту. А вось з мастацтвам фатаграфіі праблемы застаюцца. Пасля закрыцця галерэі «*NOVA*» нічога падобнага так і не ўзнікла. Бо што такое галерэя? Відавочна, не проста прастора, куды можна прыйсці і зрабіць выстаўку, а група натхнёных людзей з асаблівым бачаннем фатаграфіі, жаданнем фарміраваць фатаграфічны ландшафт краіны. Цяперашнія артпрасторы больш падобныя на ўсёедныя камерцыйныя ўстановы і, як правіла, не маюць сваёй выставачнай палітыкі ў галіне фотамастацтва. Ва ўсякім разе, яны іх ніяк не дэкларуюць», — упэўнены Уладзімір Парфянок.

Прарываў у беларускім фотамастацтве, нягледзячы на развіццё тэхнікі, таксама няма. Такіх, як гэта было 25—30 гадоў таму. Па словах Уладзіміра Парфянка, маладыя фатографы ствараюць якасныя рэчы, але самабытнымі назваць іх цяжка. Бракуе такіх праектаў, якія вылучаюць нашу нацыю асаблівым поглядам, успрыманнем рэчаіснасці... Якраз заслуга генерацыі фатографаў 80—90-х у тым, што яны, знаходзячыся ў амаль абсалютнай інфармацыйнай ізаляцыі, стварылі самабытныя творы, якія выклікалі цікавасць ва ўсім свеце, прадэманстравалі арыгінальнае бачанне беларусаў.

### ЭПОХА БІЗНЕСУ І... АДСУТНАСЦІ РЭСУРСАЎ

«Я ўспамінаю той час, калі мы, маладыя энтузіясты, працуючы вартаўнікамі і інжынерамі, маглі дазволіць сабе набыць любы новы фотаапарат, неабмежаваную колькасць фотапаперы і стужкі для творчасці і эксперыментаў... І мы маглі рабіць тое, што хацелася! Ніхто і не думаў аб тым, што фатаграфію трэба ператварыць у бізнес. Сучасныя фатографы, наадварот, вымушаныя пастаянна займацца канвертацыяй сваёй працы ў грошы», — канстатуе Уладзімір Парфянок.

Яшчэ адна глабальная праблема, на яго думку, — адсутнасць сістэмы падрыхтоўкі кадраў. Беларуская дзяржаўная акадэмія мастацтваў не вучыць асобна фотамастакоў па сённяшні дзень.

Грамадскае аб'яднанне «Фотамастацтва» спрабуе дапамагчы развіццю творчай фатаграфіі ў Беларусі, але ў яго нават няма свайго памяшкання, архіва і мэтанакіраванай выставачнай дзейнасці. А прыватныя праекты ў фатаграфіі наўрад ці здолеюць сфарміраваць нацыянальнае аблічча. Патрэбна моцная зацікаўленасць і падтрымка дзяржавы. На жаль, далёка не ўсе разумеюць, навошта развіваць фатаграфію, якая, на іх думку, усяго толькі носьбіт інфармацыі, а не прыкмета непаўторнасці народа, частка яго візуальнай культуры.

«У Літве, напрыклад, існуе магутная дзяржпадтрымка фатаграфічнага жыцця, таму фатаграфія — брэнд краіны, другі пасля баскетбола. Менавіта фатаграфія моцна ўплывае на працэс фарміравання самаідэнтыфікацыі, дазваляе народу ўбачыць сябе і ўсвядоміць сваю еднасць. Няўжо нам, беларусам, гэта непатрэбна?» — пытаецца Уладзімір Парфянок.

### ГРАНЬ ПАМІЖ МАЙСТЭРСТВАМ І ШТОДЗЁННАСЦЮ

Нават у фотадакументалістыцы можна адкрыць мастацтва — калі не проста адлюстроўваць падзею, канкрэтыку, тое, што актуальна ў дадзены момант, а ствараць нешта абагульненае, не падуладнае часу.

Уладзімір Парфянок упэўнены, што фотамастацтва — гэта не напластаванне спецэфектаў, а асаблівае бачанне рэчаіснасці праз аб'ектыў фотакамеры, размова пра складанае простымі словамі, шматслойнасць вобразаў і, галоўнае, метафарычнасць. У гэтым сэнсе можна правесці паралель з літаратурай. Што робіць раман ці аповесць сапраўдным шэдэўрам (акрамя сюжэта, канечне)? Выразныя выяўленчыя сродкі, стылістычныя прыёмы, якія выкарыстоўвае аўтар. Тое ж і з фатаграфіяй! Сапраўднае мастацтва можна адчуць на адлегласці — тут нават не трэба нічога тлумачыць.

**Гутарыла Марыя ВОЙЦІК**

# Горад навыварат

Уявіце, што фотакамера — сродак перамяшчэння па свеце… і магчымасць заглянуць закахацца ў штодзённасць. Прэзентацыя альбома рэпартажных здымкаў Данілы Парнюка «*Geographia*», выдадзенага ў 2015 годзе, прайшла ў Нацыянальным цэнтры сучасных мастацтваў. Выдаўцом кнігі выступіў Андрэй Наследнікаў. У альбоме 75 фотатвораў, якія сталі вынікам падарожжаў аўтара па свеце. Ад фатографа не схаваліся ні дзікія крымскія пляжы, ні ажыўленыя манхэтанскія скрыжаванні, ні мінскія рынкавыя шэрагі... Дзякуючы аўтару, можна пабачыць фрагменты з жыцця невялікага індыйскага горада Бодхгая, дзе, як кажуць, сам Буда дасягнуў прасвятлення, адчуць драматычную энергетыку маленькіх вільнюскіх вулак, захапіцца прыгажосцю жанчын, якія нагадваюць сучасных багінь…



*Даніла Парнюк. Шэрагі мінскага рынку Ждановічы.*

Дарожныя нататкі? Дзённік вандроўцы? Вулічная фатаграфія. Але разам з тым — нешта большае. Рэальныя гарады і канкрэтныя людзі спалучаюцца ў адзіным рытме, а быццам бы прадуманыя эпізоды вельмі ўдала дапаўняюць дзіўныя выпадковасці. Нарадзіўшыся ў Мінску, аўтар рана прыйшоў да фатаграфіі. Удзельнік многіх выставак, дзе прадстаўляў шматлікія праекты, прысвечаныя, у тым ліку, роднай сталіцы. Здаецца, яму шчасціць — часта аказвацца ў патрэбным месцы ў зручны час.

# Фотамузыка?

Фатаграфія, што перасякаецца з жывапісам і філасофіяй, апяразджвае будучыню, захапляецца сапраўдным і наноў перажывае мінулае — у работах ізраільскага фотамастака, рэпарцёра, журналіста Барыса Равіча. Выстаўка «Маімі вачыма» працуе ў Нацыянальным гістарычным музеі Рэспублікі Беларусь. Майстар, які не расстаецца з камерай вось ужо амаль паўстагоддзя, хоча перадаць нам сваё бачанне свету — таго, дзе дробязі і банальнасці ператвараюцца ў яркія факты. Ён атрымаў мноства міжнародных прэмій, быў фотакарам ТАСС, рэдактарам вялікага часопіса, удзельнічаў у сотні выставак па ўсёй Еўропе, ЗША, Японіі. Дарэчы, вернісаж у Мінску знакавы — першы пасля адмены візавага рэжыму паміж Ізраілем і Беларуссю.



*Барыс Равіч. Кадр з праекта «Лаўка».*

Козыр фатографа — нечаканыя ракурсы. На фотаздымках пануе разнастайнасць жыцця. Ізраіль, Іспанія, Францыя... Каларытныя панкі з Тэль-Авіва ці раскаваленыя вулічныя музыкі, зліццё дваіх у тэатральным танцы, намоленая атмасфера сінагогі, задуманная немаладая француженка ў кафэ, дзве шчаслівыя бабулі, якія прайшлі вайну, маленькі чалавек на велізарнай дарозе... Нічога не выпадае з-пад увагі.

Тэмы Барысу Равічу падказвае жыццё. З амаль 60 работ, прадстаўленых на выстаўцы, — некалькі праектаў. Адзін з іх — «Лаўка». Аўтар здымаў вялізнымі серыямі на працягу года з акна свайго кабінета. Гэты цыкл, па словах куратара выстаўкі, мастацтвазнаўцы Іны Шайхатовіч, — сацыяльны і эстэтычны зрэз ізраільскага жыцця ў руху, а яшчэ — пасланне ў будучыню.

Барыс Равіч, сын кампазітара, аднаго са стваральнікаў туркменскай прафесійнай музыкі Мацвея Равіча, назвы работам не дае — каб кожны глядач адчуў сваю мелодыю.

**Марыя ВОЙЦІК**

# Халоднай зімой грэе кніга

## Доўгія вечары — цудоўны час, каб пачытаць сваім дзеткам любімыя казкі

Мы прайшліся па дзіцячых бібліятэках сталіцы, каб даведацца, што чытаюць сваім сынам і дачушкам жыхары Мінска і якія кнігі раяць бібліятэкары. Каб скласці найбольш дасканалую карціну, для апытання выбралі тры самыя наведвальныя кніжніцы: абласную бібліятэку імя А. С. Пушкіна (Гікала, 4), дзіцячую бібліятэку № 1 (вул. Гарадскі Вал, 3) і Цэнтральную дзіцячую бібліятэку (пр-т газеты Праўда, 20).

Ва ўсіх установах цяпер цішыня і спакой — навагоднія святы і канікулы скончыліся, дзеці селі за парты. А яшчэ тыдзень таму ў бібліятэках былі аншлагі, бо тут можна не толькі ўзяць кнігу, але і цікава бавіць час: бібліятэкары праводзяць шмат розных мерапрыемстваў — вечарын, сустрэч з пісьменнікамі.

Самыя чытаныя аўтары сярод школьнікаў — Раіса Баравікова, Эдзі Агняцвет, Агнія Барто, Віталь Біянкі, Віктар Драгунскі, Жуль Верн, Янка Маўр, Міхась Лынькоў, Уладзімір Караткевіч, Людміла Рублеўская.

А вось ТОП-5 кніг, якія раяць бібліятэкары для зімовага чытання:

### Самуіл Маршак «Дванаццаць месяцаў»

Дванаццаць месяцаў — зімовая казка Маршака, знаёмая ўсім з дзяцінства. Падыходзіць для чытання на ноч, для пастаноўкі спектакляў і сцэнак. Гэта гісторыя пра дзяўчынку, якая жыве з мачахай і яе гультаяватай дачкой. Падчарку адпраўляюць у халодны зімовы лес за падснежнікамі, дзе ёй сустракаюцца ўсе дванаццаць месяцаў у абліччы людзей і прыходзяць на дапамогу...

Казка застаецца актуальнай і сёння, бо закранае самыя светлыя пачуцці маленькага чытача.

### Ганс Хрысціян Андэрсэн «Снежная каралева»

Гэтую казку, напэўна, ведае кожнае дзіця, паколькі па ёй зроблена мноства экранізацый. Ёсць фільмы



і мульцікі, тэатральныя пастаноўкі і кнігі ў перакладзе на розныя мовы. Супрацоўнікі бібліятэк распавядаюць, што новае пакаленне бацькоў з задавальненнем чытаюць сваім дзеткам казку, якая можа шмат чаму навучыць юнага чытача, бо твор закранае вечныя тэмы: сяброўства, каханне, узаемадапамога, дабрыня, адданасць.

### Алена Масла «Каляды з хроснай»




«Каляды з хроснай» беларускай казачніцы Алены Масла — гэта незвычайная гісторыя маленькай дзяўчынкі Вікі, якая разам з маці пераехала жыць з вялікага горада да бабулі з дзядулем. Тату яна амаль не бачыць, бо той працуе ў іншым месцы. Напярэдадні зімовых свят родныя Вікі захварэлі, і дзяўчынцы дазваляюць адсвяткаваць Каляды і Новы год разам з хроснай, якая засталася жыць у вялікім горадзе.

Чараўніца і фантазёрка ў добрым сэнсе гэтага слова, хросная жыве на апошнім паверсе самага высокага дома. Кожны дзень сябровак чакаюць прыгоды: яны праз акно ловяць зоркі, якія ператвараюцца ў камяньчыкі, фатаграфуюць анёла, начароўваюць завіруху. Калі дом засыпае снегам, ладзяць гарналыжны курорт з трасай ад акна хроснай да самай зямлі. Разам з дзецьмі ляпяць снежнага лятучага Пегаса, які з задавальненнем катае новых сяброў. Святкуюць Новы год разам з суседзямі, адвозяць падарункі дзеткам, выконваючы даручэнне Дзеда Мароза.

Віка вучыцца быць чараўніцай, робіць цуды і добрыя ўчынкі. Два тыдні з хроснай праляцелі вокамгненна, напоўненыя радасцямі, выпрабаваннямі, цудамі, прыгодамі, сюрпрызамі і неспадзяванкамі. Але самы галоўны падарунак Віка атрымае, калі надыдзе час збірацца дамоў...

### Зборнік «З Новым годам!»

Гэтая кніга зробіць зіму і зімовыя святы вершаванымі. Песенькі, вершы, п'есы, казкі і загадкі — у зборнік увайшлі творы для дзяцей рознага ўзросту. Сярод аўтараў — Рыгор Барадулін, Сяргей Грахоўскі, Васіль Зуёнак, Ніл Гілевіч, Мікола Чарняўскі, Вера Бурлак, Артур Вольскі, Максім Танк, Аксана Спрынчан і шмат іншых выдатных беларускіх пісьменнікаў і паэтаў. Дзякуючы кнізе можна даведацца, як святкуюць новы год жывёлы ў лесе, якія прыгоды чакаюць Дзеда Мароза, як да святаў рыхтуецца ялінка, як правільна паклікаць спадара з падарункамі, каб ён абавязкова прыйшоў, як паводзіць сябе на зімовыя святы...

### Свэн Нурдквіст «Пэтсан і Фіндус святкуюць Каляды»




Самотны, вынаходлівы Пэтсан і няўрымслівы, вясёлы каток Фіндус — персанажы, якія зрабілі імя Свэна Нурдквіста сусветна вядомым. Першую гісторыю пра дзядулю і яго гадаванца шведскі казачнік і ілюстратар напісаў у 1984 годзе. Цяпер серыя пра Пэтсана і Фіндуса налічвае больш як дзесяць кніг. Казкі Свэна Нурдквіста перакладзеныя на трыццаць моў. Летась, акурат напярэдадні Каляд, зімовыя прыгоды дзядулі і коціка з'явіліся на беларускай мове ў перакладзе са шведскай Надзеі Кандрусевіч.

Гісторыя пачынаецца за некалькі дзён да Каляд. Нарыхтоўваючы ў лесе яловыя галінкі, Пэтсан выцяў нагу, таму дзядуля не можа выйсці на двор, каб прынесці ялінку, не паспявае ў краму. У хаце не засталося нават малака, каб згатаваць святочную рысавую кашу. Морква і бляшанка сардзін могуць стаць каляднай вячэрай. Фіндус у роспачы. Аднак, дзякуючы вынаходлівасці Пэтсана, энтузіязму Фіндуса і добразычлівасці суседзяў, дзядуля і каток святкуюць свае самыя шчаслівыя Каляды.

Казкі Свэна Нурдквіста вылучаюцца сярод іншых тонкім гумарам, дарэчы, вельмі блізкім і зразумелым беларускаму чытачу, ды ілюстрацыямі, якія з задавальненнем разглядаюць і дзеткі, і дарослыя.

**Дар'я ЛАТЫШАВА**

## Адусюль

### Электронную бібліятэку *Bookmate* выкрылі ў піратцтве

Упершыню адказчыкам па іску аб абароне інтэлектуальнай уласнасці ў Расіі стала легальная анлайн-бібліятэка. Ініцыятарам судовага разбору выступіла выдавецтва «Праспект».

Прычынай іску стала распаўсюджванне легальным рэсурсам асобных падручнікаў па праве. У заяве паведамляецца, што друкавацца або дэманстравацца ў любым іншым выглядзе яны могуць толькі з дазволу самога выдавецтва. Юрысты «Праспекта» ўпэўненыя, што праўда на іх баку і, у выпадку непрыняцця судовага рашэння адказчыкам, будуць дамагацца блакіравання інтэрнэт-рэсурсу.

Іск супраць *Bookmate* стаў першым працэсам, узбуджаным па «антыпірацкім» заканадаўстве ў дачыненні да легальнага анлайн-рэсурсу. Магчыма, прыняты Масгарсудом вердыкт стане прыкладам для аналагічных рашэнняў.

Анлайн-бібліятэка *Bookmate* дзейнічае па прынцыпе ўнясення абаненцкай платы для атрымання доступу да падручнікаў, навукова-папулярнай і мастацкай літаратуры, прадстаўленай у электронным выглядзе. Яе блакіроўка абмяжуе доступ да чытання на тэрыторыі Расіі. Да рашэння суда рэсурсу забаранілі распаўсюджваць падручнікі, якія сталі прычынай для падачы іскавай заявы. Паводле папярэдняй інфармацыі, суд па справе адбудзецца ў канцы студзеня гэтага года.

### Кнігі ці гаджэты для дзіцяці? Навукоўцы патлумачылі розніцу

Спецыялісты з Універсітэта Арызона даследавалі ўплыў гаджэтаў і кніг на развіццё дзіцяці. Вынік паказаў відавочную перавагу традыцыйнай забавы.

Больш за 1000 малых ва ўзросце ад 2 да 7 гадоў прынялі ўдзел у эксперыменце. Яны былі падзелены на тры групы. Першая вучылася з дапамогай драўляных цацак і кніжак, у другой групе карысталіся выключна навамоднымі гаджэтамі, навучальнымі камп'ютарнымі гульнямі. У трэцяй групе дзеці комплексна спазнавалі свет, спалучаючы чытанне дзіцячых кніжак і сучасныя тэхналогіі.

Вынікі здзівілі бацькоў, але сталі прагназаванымі для навукоўцаў. Аказалася, што найбольш высокія веды ў навучанні і пазнанні свету паказалі дзеці з першай і трэцяй груп. Малыя, што карысталіся выключна гаджэтамі, былі менш развітымі ў параўнанні з аднагодкамі. Тлумачэнне досыць простае. Як правіла, дарослыя пакідаюць дзіця сам-насам з планшэтам або камп'ютарам, пазбягаючы пастаянных пытанняў. Пры сумесным праглядзе і чытанні кніжак рознага тыпу з дзіцём бацькі забяспечваюць яму атрыманне дадатковай інфармацыі. У выніку ў такіх дзяцей лепш развітыя памяць, лагічнае мысленне, кругагляд і багацейшы слоўнікавы запас.

Менавіта таму, у чарговы раз выбіраючы паміж кнігай або гаджэтам, прыслухайцеся да меркавання навукоўцаў і дайце свайму дзіцяці максімум для развіцця.

### У башкірскіх электрычках набірае папулярнасць бібліятэка на колах

Адразу на некалькі сотняў кніг у навагоднія святы папоўнілася перасоўная бібліятэка, якая дзейнічае ў прыгарадных электрычках Башкартастана. Гэтыя выданні прэзентавала чыгуначнікам адна з бібліятэк сталіцы рэспублікі. Зрэшты, і да гэтага бібліятэка на колах працавала ўжо некалькі месяцаў. Чыгуначнікі ў свой час звярнулі ўвагу на тое, што некаторыя пасажыры пакідаюць прачытаныя кнігі ў электрычках, вось і вырашылі арганізаваць нешта накшталт бібліятэчнага фонду, які дазволіць людзям прабавіць час у шляху. Асартымент выданняў пастаянна абнаўляецца, бо кожны пасажыр можа ўзяць з сабой любую кнігу з бібліятэкі, пакінуўшы наўзамен сваю. Выбар выданняў досыць шырокі. Як сцвярджаюць чыгуначнікі, у фондах ёсць і класіка, і дэтэктывы, і фантастыка, і нават зборнікі казак для юных чытачоў.

Прыгарадная пасажырская кампанія Башкартастана плануе распаўсюдзіць сваё пачынанне не толькі ў рэспубліцы, але і ў іншых найбліжэйшых рэгіёнах Расіі, дзе курсіруюць электрычкі кампаніі.

### Па вуліцах Таронта курсіруе велабібліятэка

Праект *Book Bike* ўжо стаў чытацкім сімвалам горада. Рэалізуецца ён з дапамогай дзвюх дзяўчат, якім падабаюцца кнігі і двухколавы транспарт.

Сара Б'юдзін і яе сяброўка Мадлен Кары штодня выязджаюць з дому ў суправаджэнні велапрычэпа і 18 кілаграм выданняў на любы густ. У невялікім фондзе перасоўнай бібліятэкі — навукова-папулярная і мастацкая літаратура, спецыяльныя кнігі для дзяцей рознага ўзросту і студэнтаў. Асаблівая ўвага нададзена і літаратуры на іншых мовах. У парку *Christie Pits* у карэйскім квартале «бібліятэкары» абавязкова прапануюць кнігі на роднай мове мясцовых жыхароў.

*Book Bike* — сезонны праект. Велабібліятэка калясіць па парках з сярэдзіны вясны да пачатку восені. Жыхары і госці Таронта з радасцю сустракаюць перасоўную бібліятэку. Узяць упадабаную кнігу можна дадому. «Бібліятэкары» просяць вярнуць яе назад або аддаць сябру. Уладальнікі хатніх бібліятэк з задавальненнем папаўняюць запасы велапрычэпа ўласнымі асобнікамі літаратуры.

# «Час магнатаў»

Так называецца выстаўка, якая цяпер экспануецца ў мастацкай галерэі ў Рэспубліканскім тэатры беларускай драматургіі. Гэта вынік унікальнай культурнай ініцыятывы, якая была рэалізаваная ў рамках конкурсу міні-грантаў праекта «Голас культуры». Выкладчыкі, большасць якіх — сябры Беларускага саюза мастакоў, і навучэнцы запрашаюць нас у адметнае, агучанае вобразамі, падарожжа ў знакавыя для Беларусі «залатыя» XIV — XVIII стагоддзі, калі наша культура зазнала сапраўдны росквіт і ўвайшла ў еўрапейскі культурны кантэкст, калі былі збудаваныя ўнікальныя помнікі архітэктуры, калі ўбачылі свет першадрукі і былі напісаныя першыя «сармацкія партрэты», калі ці не ўпершыню загаварылі пра ролю Асобы ў гісторыі. Яны, гэтыя Асобы, і сталі галоўнымі героямі выстаўкі.

Станіслаў Кішка (ягоны партрэт у шамоце ўвасобіў малады скульптар, выкладчык, адзін з арганізатараў выставы Іван Арцімовіч), і Леў Сапега, і Януш Радзівіл, і Францыск Скарына, і легендарная чорная панна Нясвіжа — Барбара Радзівіл (іх вобразы і ў жывапісе, і ў графіцы, і ў скульптуры ўвасобілі аўтары). Тон задавалі выкладчыкі, вядомыя ўжо не толькі ў нашай краіне маладыя мастакі, якія разам з Іванам Арцімовічам увайшлі ў ініцыятыўную групу. Вольга Гардзіёнак-Кірэева містычным чынам перадала ў жывапісе і дух майстэрні, дзе блукаюць вобразы мінуўшчыны, і таемныя «Гальшаны», а Піліп Басалыга ўразіў рамантычным Мірскім замкам. Серыяй графічных аркушаў «Легенда аб камянях» заінтрыгавала Наталля Шыбко.

Але найбольшую ўвагу прыцягнулі канцэптуальныя працы Паўла Ляонава «Залатое стагоддзе» (з'яднаныя ў адзіны драўляныя каталіцкі і праваслаўны крыжы ўспрымаліся як ключ да ўсяго «часу магнатаў») і Паліны Піраговай, Васіля Цімашова «Знак Улады. Алмаз» (зроблены з простых старых дошак алмаз, у структуры якога лёгка чытаюцца традыцыйныя для беларускага арнаменту ромбы — знакі зямлі).

Як і выкладчыкі, многія навучэнцы прэзентавалі свае творы як вобраз-канцэпцыю.

Як перадаць у скульптуры «закансерваваны рух», што зберагаюць кананічныя «сармацкія партрэты»? Ян Леўша, увасабляючы свайго героя-магната



Наталля Стрыжнова. Скульптура «Барбара Радзівіл».

(«Астафій Багданавіч Валовіч»), твар якога перададзены ў аб'ёме і зусім дасканала, над паралелаграмам, на кожнай з граняў якога — то рыцарскі, то магнацкі ўбор (чатыры іпастасі аднаго вобраза), у канцэпцыі да працы дадае: «Кампазіцыя пабудавана па прынцыпе «сармацкага партрэта», характэрнага для той эпохі. Розныя рэльефы (вопраткі) на геаметрычнай форме раскрываюць сутнасць тагачасных магнатаў».



Павел Ляонаў «Залатое стагоддзе».

Кожны можа падабраць і прымераць адну з чатырох карон і адчуць сябе ўладаром (твор «Сімвал Улады»). Але пры гэтым мусіць пазнаёміцца з канцэпцыяй кожнага з аўтараў.

Ілья Лаўнíковіч: «Мая карона — сімвал усемагутнасці і грахоўнасці ўлады». Лера Бірала: «Мая карона паказвае грацыёзнасць і прыгажосць паненак таго часу». Наста Канашэвіч: «Нягледзячы на прыгажосць і веліч кароны, плата за яе магла быць занадта вялікай і не заўсёды годнай. Свечкі ў стагоддзе магнатаў нярэдка з'яўляліся сведкамі важных гістарычных падзей — таемных змоў, пра якія ўжо ніхто і ніколі не зможа расказаць». Хрысціна Макаранка: «Карону маглі вырабіць са сталі, з золата, маглі ўпрыгожыць мноствам каштоўных камянёў. Карона з паперы — той жа знак улады, але ж якая сіла стаіць за плячыма таго, хто носіць яе?»

Прафесар Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў, вядомы беларускі мастак Юрый Піскун, які ў свой час разам з жонкаю Аленай Піскун-Юр'евай стварыў унікальныя «магнацкія» касцюмы для ансамбля «Харошкі», слушна заўважыў:

— Самае галоўнае, што засталося ў нас ад «залатых стагоддзяў», гэта помнікі мастацтва і літаратуры, гэта кнігі.

Наведаўшы выстаўку, кожны можа здзейсніць падарожжа ў часе і адказаць на пытанне: чаму ж час магнатаў называюць «залатым»?

Вось як адказаў у «Паляванні на зубра» Мікола Гусоўскі (на выставе шмат вельмі арыгінальных ілюстрацый да гэтай паэмы):

*«І называюць той век залатым. Залатыя*
*Ззялі аздобы ў харомах, а ў курных халупах*
*Вёсак, пасадаў — якая была пазалота?..*
*Мне так здаецца, што гэтай шаноўнаю назвай*
*Век той названы па простай прычыне: дзяржаўца*
*Перад багаццем і шчасцем зямным пастаянна*
*Ставіў багацце духоўнае — злата дзяржавы».*

**Галіна БАГДАНАВА**

## Культурны ракурс




Ці бачылі вы калі-небудзь помнік хаце? І не проста хаце, а хаце-прывіду. Недалёка ад горада Вілейкі Мінскай вобласці такі помнік ёсць. Ён з'яўляецца часткай Мемарыяла зніклым вёскам, які быў створаны мясцовым скульптарам Анатолем Капцюгом і адкрыты летам 2009 года.

За 70 гадоў на Вілейшчыне не стала 253 населеных пунктаў. Адны былі знішчаны ў часы Вялікай Айчыннай вайны і не аднавіліся, другія страцілі назвы і былі далучаны да іншых вёсак сельсавета, іншыя затапілі, калі ў 70-х гадах мінулага стагоддзя запускалі Вілейскае вадасховішча.

На шаснаццаці асобных помніках-камянях пералічаны назвы былых паселішчаў. А на цэнтральным помніку напоўненыя самотай словы прымушаюць задумацца кожнага з наведвальнікаў: «Прыпыніся, вандроўнік! Дакраніся рукой і сэрцам да гэтых камянёў, і няхай душа твая напоўніцца любоўю да роднай вёскі, роднай сядзібы і хаты, якія знёс няўмольным подыхам бязлітасны час…»

Але найбольш уражвае хата-прывід. Уявіце: едзеш па аўтамабільнай дарозе, а на ўскрайку лесу скрозь галіны дрэў раптам праглядае вясковая хата. Пад'язджаеш бліжэй і бачыш, што гэта не хата зусім, а проста яе абрысы. Абрысы, якія, нягледзячы на няўмольнасць часу, усё ж засталіся. Засталіся ў гэтым своеасаблівым мемарыяле… У свядомасці землякоў… У Вечнасці…

**Аксана ЯРАШОНАК**

*Каб узяць удзел у конкурсе, дасылайце свае фотаздымкі на электронны адрас* **lim_new@mail.ru** *з пазнакай* **«Культурны ракурс»**. *Лепшыя будуць апублікаваныя на старонках газеты!*

*Галоўныя ўмовы творчага спаборніцтва: цікава і арыгінальна сфатаграфаваць помнік гісторыі і культуры Беларусі (магчыма, на тэрыторыі іншай краіны) ці сфатаграфавацца каля яго. Прымаюцца і работы, зробленыя ў жанры сэлфі.*

*Рэдакцыя чакае не толькі ўдалага фота, але і лаканічнага, пераканаўчага тлумачэння, чаму менавіта гэты помнік падаецца вам самым значным. А таксама канкрэтных звестак пра аўтара здымка (імя, прозвішча, месца працы альбо вучобы, кантактныя дадзеныя). Аўтар можа даслаць некалькі фота. Пры адборы работ будуць улічвацца не толькі мастацкія якасці здымка, але і яго канцэпцыя, пераканаўчасць тэксту-тлумачэння.*

*Чакаем вашых фота на працягу ўсяго 2016 года і разлічваем на нязменную цікавасць да беларускай культуры!*


**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**

**Заснавальнікі:**
**Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі», рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"»**

**Галоўны рэдактар**
**Ларыса Іванаўна ЦІМОШЫК**





**Адрас рэдакцыі:**
**Юрыдычны адрас:**
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by

**Адрас для карэспандэнцыі:**
220013, Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.lim.by

**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага рэдактара — 287-17-98
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 292-20-51



Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

**Падпісныя індэксы:**
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
638562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"».
Дырэктар — галоўны рэдактар
Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка:
А. В. Бізункова

Камп'ютарны набор:
Г. Я. Палякова

Стыльрэдактар:
Н. А. Святлова

Нумар падпісаны ў друк 21.01.2016 у 11.00

Ум. друк. арк. 3,72

Наклад — 2001.

Кошт у розніцу — 3900 рублёў

**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
ЛП № 02330/106 ад 30.04.2004
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 220013

Заказ — 153

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12




ISSN 0024-4686